1 чэрвеня 2018 | № 20 (583)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 18020

**Чатырыста гадоў Апакаліпсісу**

Стар. 8

**4 «УСХОДНЯЕ ПАРТНЁРСТВА»: ШТО ДАЛЕЙ?**

**За 10 гадоў да праграмы «Усходняе партнёрства» ўзнікла шмат прэтэнзій. Аднак ніводная з краін-удзельніц не збіраецца адмаўляцца ад такога фармату супрацоўніцтва з ЕС**

**5 БЕЛАРУСКАЯ ПЕНСІЯ: СВЕЦІЦЬ, АЛЕ НЕ ГРЭЕ**

**«Пенсійны калькулятар» пераканаўча стымулюе нас атрымліваць заробкі «ў канвертах»**



**6–7 ВІКТАР ШЭЙМАН: ВАЕННЫ Ў ЦЫВІЛЬНЫМ**



**Ён — прадстаўнік пакалення, якое адносна лёгка прыйшло да ўлады, і больш ад гэтай улады адмаўляцца не жадала**

**10–11 СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ: «Я — ШЧАСЛІВЫ ЧАЛАВЕК»**

**Заканчэнне гутаркі Сяргея Шапрана з Нобелеўскай лаўрэаткай**

# Няміга і «Бульбаш-хол»: што агульнага?

## Падавалася б, нічога, але...



Сяргей ПУЛЬША

З дня трагічнай падзеі ў Мінску, калі ў 1999 годзе ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга» загінулі 53 чалавекі, прайшло 19 гадоў. У той трагедыі вінаватых не знайшлі.

Па факце гібелі людзей пракуратурай горада была распачата крымінальная справа. Яна расследавалася два гады, абвінавачванне ў халатнасці было прад'яўлена начальніку міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама Віктару Русаку і начальніку аддзела масавых мерапрыемстваў Міхаілу Кандрацішу. Ім ставілася ў віну «няпоўнае выкананне ўскладзеных службовых абавязкаў пры ажыццяўленні мер аховы парадку». Але 25 сакавіка 2002 года суд Цэнтральнага раёна сталіцы прыняў рашэнне аб спыненні вытворчасці па справе ў сувязі з заканчэннем тэрміну даўнасці прыцягнення вінаватых да адказнасці.

Інакш гэтая справа скончыцца і не магла. Бо яшчэ 31 мая на месцы гібелі людзей Лукашэнка заявіў, што гэта — «страшная і невытлумачальная» трагедыя. Ён падкрэсліў, што ён нікому не можа прад'явіць якіх-небудзь прэтэнзій: бездакорна дзейнічалі лекары, на месцы знаходзілася дастатковая колькасць супрацоўнікаў унутраных войскаў (150 міліцыянтаў, двое з іх загінулі), якія забяспечвалі правапарадак, і нават казаў, што не трэба шукаць прычыны ў тым, што віной усяму быў алкаголь...

Карацей, такая «проста трагедыя».

Таму не дзіва, што некаторыя пачалі бачыць у тых падзеях сэнс містычны. Узгадалі ўсё: і што трагедыя адбылася падчас Тройцы (маўляў, у храм трэба было ісці, а не таньчыць пад піва). І што ў часы Другой сусветнай вайны на Нямізе было яўрэйскае гета, дзе загінула безліч людзей. І «Слова пра паход Ігаравы»: «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны...» А некаторыя нават узгадалі Зянона Пазняка, які, праводзячы раскопы падчас будаўніцтва там метрапалітэну, нібыта казаў нешта кшталту: «Наенчыцеся вы яшчэ з гэтай станцыяй метро!»

Можна верыць у тую містыку ці не верыць. Але ў любым выпадку ладзіць танцы на касцях — заўсёды было дрэнным прыкметай. І тым не менш, некаторыя, у пагоні за доўгім рублём, па-ранейшаму наступаюць на тыя ж граблі.

Ці не адначасова з гадавінай трагедыі на Нямізе запланавана адкрыццё рэстарацыі «Паедзем, паядзім». Гэты «аб'ект грамадскага харчавання» знаходзіцца за 50 метраў ад Курапацкага лесу, у комплексе будынкаў, які ў прэсе атрымаў назву «Бульбаш-хол» і належыць кампаніі «БелРэстІнвест». «Радыё Свабода» напярэдадні адкрыцця паведамляла, што ў зале ўжо гатовыя інтэр'еры, стаяць сталы і лаўкі, музычная апаратура. Расстаўляюць бутэлькі са спіртовымі напоямі. У цэнтры залы каля барнай стойкі вялізная рэклама гарэлкі «Бульбашъ»...

Будаўніцтва комплексу за 50 метраў ад вызначанага месца масавых расстрэлаў пачалося ў 2012 годзе. Грамадскасць




Фота www.tut.by

> **Там, дзе зараз стаіць рэстарацыя, зямелька моцна палітая крывёю бязвінных ахвяраў**

казала, што ён знаходзіцца ў ахоўнай зоне, дзе будоўля забароненая, але ў 2015 годзе Мінкульт скараціў ахоўную зону са 120 да 50 метраў — і аб'ект трапіў у зону «рэгуляванай забудовы». Пратэсты, звароты ў суд і пракуратуру не дапамаглі. Як не дапамаглі і прапановы грамадскасці перадаць комплекс на баланс Беларускага саюзу мастакоў «дзеля творчай дзейнасці ў інтарэсах Курапатаў». Не далі плёну і спробы правесці перамовы з уладальнікамі аб'екта наконт таго, як зрабіць, каб і бізнес захаваць, і не парушаць маральныя нормы.

Тут і ўзнікаюць паралелі з Нямігай. Усе разумеюць, што ахоўная зона Курапатаў далёка не ўтрымлівае ўсе месцы масавых пахаванняў. Паводле меркавання гісторыка Ігара Кузняцова, там, дзе зараз стаіць рэстарацыя, зямелька таксама моцна палітая крывёю бязвінных ахвяраў. Ці палезе кавалак у горла тым, хто «паедзе паесці» ў гэты «аб'ект прыдарожнага сервісу», як сарамліва называлі яго падчас будоўлі?

Цікава, як будуць пачувацца наведвальнікі рэстарацыі, калі падчас дзелавога сняданку ці ўрачыстай вячэры ім раз-пораз на вочы будуць трапляць курапацкія крыжы? Хто ўвогуле даўмеўся будаваць «рэстарацыю з відам на магілкі»? Ці гэта такі чорны гумар? Калі гэта так, то жарт няўдалы.

Персанальна я ў такую рэстарацыю — не хадок. Не таму, што веру ў містыку, а таму, што весяліцца на месцы масавых расстрэлаў і пахаванняў — блюзнерства.

Але ж насамрэч справа тут у іншым. У знакамітым выслоўі пра тое, што «хто забываецца на сваю гісторыю, асуджаны перажыць яе нанова». І ў выпадку з Нямігай, і ў выпадку з экс-«Бульбаш-холам» мы пачынаем не тое што забывацца — наўпрост ігнараваць гісторыю.Ператвараючы гістарычныя месцы трагедый у забаўляльныя пляцоўкі, мы самі правакуем зусім не містычны і не «карнічны» адказ. З пагардай ставячыся да ўласнай гісторыі, мы непазбежна трапляем пад уплыў гісторыі чужой. І вось некаторыя ўжо называюць нас «неданацыяй», а Беларусь — «недадзяржавай», у якой той уласнай гісторыі, нібыта, і няма.

Я не асабліва веру ў містыку, але, калі ў той рэстарацыі здарыцца нешта, падобнае на Нямігу 1999-га — не здзіўлюся.

# Адвядзем бяду ад Курапатаў

Марат ГАРАВЫ

**Грамадзянская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў» звярнулася да суайчыннікаў напярэдадні адкрыцця рэстарацыі «Паедзем, паядзім» ля Народнага мемарыялу.**

Чарговая бяда, якая шмат гадоў пільнавала Курапаты з пачатку будаўніцтва рэстаранна-забаўляльнага комплексу пад абразлівым імем «Бульбаш-хол», гатовая выбухнуць. У канцы тыдня за 50 метраў ад нацыянальнага некропалю запланаванае адкрыццё рэстарацыі — ужо пад заліхвацкай назвай «Паедзем, паядзім».

Не можа быць радасці ад такой паездкі і такога застолля каля гэтага святога для кожнага суайчынніка месца, дзе ў даваенныя гады забілі тысячы найлепшых сыноў і дачок Беларусі — самых працавітых, таленавітых і адукаваных.

Адкрыццё рэстарацыі каля Курапатаў зганьбіць усіх нас — чыноўнікаў, прадпрымальнікаў і грамадскасць. Першых — бо дазволілі скараціць ахоўную зону Курапатаў, каб узаконіць будаўніцтва «Бульбаш-холу». Бізнесоўцаў — бо дзеля грошай спакусіліся на гэты ласы кавалак зямлі ля кальцавой дарогі. Грамадскасць — за тое, што не знайшла ў сабе сілаў абараніць курапацкія пагоркі, дзе не з сваёй волі ляжаць нашыя продкі.

Дапусціць адкрыццё рэстарацыі ля Курапатаў — зваліцца ў бездань небыцця.

І каб потым сорам не з'еў нашы душы, звяртаемся да лепшага, што ёсць у кожнага з нас, — разам адвядзем бяду ад Курапатаў.

# Марш забаронены, скаргі не задаволены

**«Марш супраць свінцу» брэсцкія мясцовыя ўлады не дазволілі.**

Дэманстрацыя мусіла адбыцца 3 чэрвеня і прайсці праз цэнтр горада, каб праінфармаваць грамадзян пра небяспеку, звязаную з будаўніцтвам акумулятарнага завода пад Брэстам.

Пра важнасць такіх мерапрыемстваў прадстаўніца ініцыятыўнай групы праціўнікаў будаўніцтва Лада Яраш расказала «Радыё Рацыя»:

— Трэба распавесці знаёмым, суседзям пра небяспеку, бо шмат хто дагэтуль не ведае. Адпіскі, якія мы атрымліваем, напісаныя ледзь не пад капірку, там адны і тыя ж фразы. Гэта сведчыць, што пытанне далёка не ў парадку.

Прадстаўнікі Брэсцкага гарвыканкаму абгрунтавалі рашэнне тым, што дазволеным месцам для масавых мерапрыемстваў з'яўляецца плошча Свабоды. Заяўнікі ж збіраліся прайсці праз бульвар Касманаўтаў, вуліцу Гогаля і да Савецкай на пляцоўку перад кінатэатрам «Беларусь».

Праваабаронцу Уладзіміру Вялічкіну 28 мая стала вядома, што Брэсцкі абласны суд не задаволіў касацыйныя скаргі ініцыятыўнай групы праціўнікаў будаўніцтва завода.

«Я спадзяюся, што вынік будзе пазітыўны з усіх гэтых судовых разбіральніцтваў, але на праблему трэба глядзець шырэй. На сёння мы бачым, што нашыя кіраўнікі пайшлі шляхам здрады інтарэсам народу. Калі няма крэдытаў, яны пайшлі шляхам размяшчэння шкодных для здароўя заводаў», — падкрэслівае праваабаронца.

Касацыйныя скаргі былі датычныя рашэння суда Маскоўскага раёна Брэста адносна пазову да Брэсцкага райвыканкаму і кампаніі «IPOWER».

«Будзем надалей абскарджваць прысуды», — зазначылі прадстаўнікі ініцыятыўнай групы.

**spring96.org**

# Памяці Арсеня Ліса

**Краіна развіталася з патрыётам Бацькаўшчыны, выдатным літаратарам шчырым і светлым чалавекам. На 85-м годзе жыцця адышоў у Вечнасць Арсень Сяргеевіч Ліс.**



Шмат гадоў чытачы «Новага Часу» мелі шчаслівую магчымасць захапляцца артыкуламі Арсеня Ліса, вывучаць гісторыю краіны разам з яго ўспамінамі.

Яшчэ пару тыдняў таму мы размаўлялі з ім. Арсень Сяргеевіч быў пасля шпіталю, слабенькі, але поўны аптымізму і планаў. Мы размаўлялі пра «Новы Час», пра працяг публікацый. Публікацыяй па сутнасці не проста яго ўспамінаў, а неверагоднай гісторыі жыцця неверагоднага чалавека, які застаўся шчырым і светлым нягледзячы ні на што.

«Арсень Сяргеевіч Ліс — адзін з найшляхетнейшых людзей, якіх я толькі сустракаў у сваім жыцці — напісаў Сяргей Шупа. — Усё жыццё ён назапашваў у сабе інфармацыю пра культуру, мастацтва, палітыку, ведаў там усіх і пра іх усё, а з тымі, хто дажыў, быў знаёмы і асабіста. Гэтым сваім скарбам ён дзяліўся даволі ашчадна... Арсень Ліс быў адным з тых, хто праз савецкія гады кантрабандна пранёс у будучыню несавецкую беларускасць. Дзякуючы ім сёння Беларусь яшчэ застаецца Беларуссю. Праўда, імя ягонае нячаста згадваецца ў розных ганаровых спісах заслужаных для беларускай Незалежнасці людзей. А дарма».

«Ён — інтэлігент: акуратны і гжэчны, асцярожны ў ацэнках і ўважлівы да іншага меркавання. І размова з ім, і чытанне ягоных кніг — заўсёды інтэлектуальнае задавальненне і, адначасова, праверка і ўрок... Ён — чалавек, на якога хочацца быць падобным», — напісаў чатыры гады таму Ціхан Чарнякевіч.

«Найцудны чалавек нашае Краіны — Арсень Ліс. Звыштонкі, Звышінтэлігентны, Звышмудры, Звышаддадны справе, сям'і, Айчыне. ...

У Вышынях яму ўзрадуецца ўся вялікая грамада тых, чые лёсы ён тут разгортваў, расхінаў дзеля будучыні як хроніку Волі й Любові.

Спяшаўся, вельмі спяшаўся завершыць распачатыя даследаванні. І... зрабіў, стварыў, адкрыў, растаемніў столькі Праўды XX стагоддзя, што нам яшчэ пазнаваць і пазнаваць, здзіўляцца й здзіўляцца, навучацца й навучацца. Сталець. Мужнець. Набірацца магуты й Святла, шчодра й люботна перададзеных Арсенем Сяргеевічам далей, у вякі наступныя.

Жальна схіляю галаву перад Настаўнікам маім найлепшым, найшчырым, найгодным, перад маім дарадцам і сябрам...

Ён усё і ўсіх на сваім шляху вёў і прыводзіў — да крanання тых духовых ісцін, якія бароняць, аберагаюць, ратуюць у часы сцюжныя й асвятляюць небакраі ў лагодзе й міралюбнасці.

Сышоў у Вечнасць неўтаймоўны рамантык Беларусі нескаронай, моцнай і прыгожай. І нам належыць тое сцвердзіць, пакуль застаемся ТУТ. Бывайце, мой родны, мой харобры, мой памятлівы Чалавеча!» — напісала паэтка Антаніна Хатэнка.

Нам усім неверагодна балюча ад гэтай страты... Шчырыя спачуванні родным! Светлая памяць Светламу чалавеку.

# Пяць фактаў пра памочніка Лукашэнкі

**КДБ затрымаў памочніка Лукашэнкі, інспектара па Гродзенскай вобласці Сяргея Раўнейку. Чыноўніка ўзялі з доказамі злачынства пры вымагальніцтве і атрыманні хабару ў памеры 200 тысяч долараў.**

**«Салідарнасць» сабрала некалькі фактаў пра Раўнейку.**

### З кантралёра ў інспектары

Да прызначэння ў 2015 годзе галоўным інспектарам па Гродзенскай вобласці, Сяргей Раўнейка займаў пасаду старшыні КДК па Гродзенскай вобласці (да снежня 2012-га), а таксама начальніка галоўнага ўпраўлення кантролю за працай галін сферы матэрыяльнай вытворчасці Камітэта.

### Як Лукашэнка даваў наказ новым памочнікам

У 2015 годзе, прызначаючы на пасаду новых памочнікаў, кіраўнік дзяржавы акрэсліў для іх прыярытэты працы, зрабіўшы акцэнт на выбарчай кампаніі: «Арганізоўваць выбары, працаваць на канчатковы вынік вы павінны найцяснейшым чынам з губернатарам. Гэта ваша найпершая задача».

Пры гэтым Лукашэнка падкрэсліў, што паралельна яго памочнікам трэба будзе адсочваць, «наколькі перадвыбарчы працэс адпавядае заканадаўству і ўстановам, дадзеным на нарадзе па актуальных унутрыпалітычных пытаннях»: «Вы павінны жорстка гэта кантраляваць. Трэба акуратна, спакойна правесці гэтыя выбары».

### Ракіроўка 2017 года

У траўні 2017-га ўказам кіраўніка дзяржавы Раўнейка быў прызначаны на пасаду памочніка прэзідэнта — інспектара па Гродзенскай вобласці. Да гэтага ён займаў пасаду галоўнага інспектара.

Ці звязана гэтая ракіроўка з тым, што чыноўнік да таго моманту (па сцвярджэнні КДБ) знаходзіўся ў полі зроку праваахоўных органаў, застаецца толькі здагадвацца.

### Курыраваў бокс

Сяргей Раўнейка з'яўляецца старшынёй Гродзенскага абласнога аддзялення ГА «Беларуская федэрацыя бокса». На гэтай пасадзе чыноўнік запомніцца незвычайнай ініцыятывай. Менавіта пры ім абласное аддзяленне федэрацыі заснавала нагрудны знак «За садзейнічанне і развіццё бокса ў Гродзенскай вобласці».

Аднымі з першых уладальнікаў знака сталі найстарэйшы дзеючы суддзя міжнародных і нацыянальных спаборніцтваў Валерый Панкоў і гендырэктар гродзенскай тытунёвай фабрыкі «Нёман» Юры Чарнышоў.

### Чым запомніўся ў апошнія гады

Мяркуючы па загалоўках у абласных і раённых газетах Гродзеншчыны, Раўнейка рэгулярна праводзіў прыёмы грамадзян. У адным з інтэрв'ю чыноўнік адзначаў нізкі ўзровень прававой пісьменнасці грамадзян: «Ёсць звароты, якія не могуць быць разгледжаны на ўзроўні мясцовых уладаў. Яны датычацца дзейнасці праваахоўных органаў, судовай сістэмы. Людзі часам змешваюць маральныя і юрыдычныя нормы, падмяняюць адны паняцці іншымі. Наспела неабходнасць павышэння прававой свядомасці людзей, пачынаючы са школы».

**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хто куды паедзе летам?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Прыйшло лета і прымусіла ўсіх знізіць актыўнасць у стварэнні праблемаў і іх развязванні. Але ўсё ж на тыдні былі некаторыя навіны, якія цягнуць на маленькія сенсацыі.**

Напрыклад, у аўторак прэс-служба кіраўніка нашай дзяржавы паведаміла пра тэлефонную размову Аляксандра Лукашэнкі і федэральнага канцлера Аўстрыі Себасцьян Курца. Адзначаецца, што размова адбылася па ініцыятыве аўстрыйскага боку, і паведамляецца, што Курц запрасіў Лукашэнку наведаць Аўстрыю. Кіраўнік Беларусі, зразумела, гэтае запрашэнне прыняў, і ў сваю чаргу запрасіў Куртца прыехаць у Беларусь у суправаджэнні дзелавых колаў, паведаміла прэс-служба.

Калі гэта быў не своеасаблівы пратакольны абмен запрашэннямі, то візіт Лукашэнкі ў Аўстрыю будзе ледзьве не гістарычнай падзеяй. Пасля разгону Плошчы ў 2010 годзе Еўрасаюз наклаў на кіраўніка Беларусі санкцыі, яго лічылі ізгоем. Толькі ў пачатку 2016 года Лукашэнка перастаў быць «неўязным» у ЕС. Вясной таго ж года ён наведаў Ватыкан, але гэта не было афіцыйным візітам у краіну Еўрасаюза. Зараз жа, цалкам магчыма, адбудзецца першы за шмат гадоў візіт беларускага правадыра ў Еўропу.

Аналітыкі пачалі чухаць патыліцы: чаму менавіта Аўстрыя? Некаторыя кажуць, што справа палягае ў інтарэсах аўстрыйскага бізнесу ў Сінявокай. Самыя яскравыя прыклады — «Прыёрбанк», які ўваходзіць у склад аўстрыйскай групы Raiffeisen International, кампанія Velcom, якая з'яўляецца структурай аўстрыйскага холдынгу Telekom Austria Group. Акрамя таго, непасрэдна Себасцьян Курц уж даволі добра знаёмы з кіраўніком Беларусі. У Мінску ён сустракаўся з Лукашэнкам у 2015 і 2017 гадах у якасці федэральнага міністра замежных спраў. У канцы мінулага года 31-гадовы Курц быў абраны канцлерам і, мабыць, вырашыў даць кіраўніку Беларусі шанец.

А можа быць, проста іншыя палітыкі ў ЕС не хацелі б рызыкаваць сваёй рэпутацыяй, запрашаючы Лукашэнку. У Аўстрыі ж урад складаюць кансерватары ў кааліцыі з сумнавядомай і, можна сказаць, ультраправай Аўстрыйскай партыяй свабоды. Таму іх рэпутацыя хвалюе менш, і, можа быць, яны б хацелі і навучыцца чаму-небудзь у Аляксандра Рыгоравіча ў кіраванні краінай.

Але, калі беларускі кіраўнік усё ж пажадае наведаць Вену, яму трэба быць максімальна асцярожным. Бо інцыдэнты здараюцца і з людзьмі не такога ўзроўню.

Міністр юстыцыі Беларусі Алег Сліжэўскі сустракаўся 28 мая ў Мадрыдзе з міністрам юстыцыі Іспаніі. Але атрымалася сустрэча не толькі з калегам па працы. Напаўаголеная дзяўчына з руху «Femen» выйшла на акцыю перад каралеўскім міністэрствам юстыцыі з плакатам «Жыве Беларусь! Without Lukashenko!» і з надпісамі на целе на іспанскай і на англійскай мовах з заклікамі адстаўкі кіраўніка Беларусі.

І гэта прыехаў усяго міністр юстыцыі. Што будзе, калі ў Еўрасаюз паедзе Аляксандр Рыгоравіч персанальна — тут і ўявіць цяжкавата.

Тым больш, што краіна працягвае дражніць той самы Еўрасаюз, ігнаруючы базавыя для яго каштоўнасці.

На тыдні высветлілася, што ў Беларусі прыведзеныя ў выкананне два чарговыя смяротныя прысуды. Прычым, пра гэтую справу паведамілі не ўлады. Гэта стала вядома падчас разгляду ў Вярхоўным судзе апеляцыі Аляксандра Жыльнікава і Вячаслава Сухаркі, якія атрымалі смяротны прысуд за забойства трох чалавек.

**Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, дзе ўжываецца смяротнае пакаранне, і за гэта моцна крытыкуецца Еўрасаюзам. Савет Еўропы заклікае Беларусь увесці мараторый на смяротнае пакаранне ў якасці першага кроку да яго канчатковай ліквідацыі**

У працэсе Сухарка распавёў: «Я сядзеў у камеры смяротнікаў, для якіх прысуд ужо набыў законную моц. З 15 на 16 мая забралі з камеры Міхаленю і Летава».

33-гадовы Аляксей Міхаленя быў прыгавораны да пакарання смерцю за забойства двух суседзяў-пенсіянераў. Забойства адбылося ў сакавіку 2016-га ў Нароўлі: у двары прыватнага дома знайшлі 59-гадовага пенсіянера, а ў склепе — яго 61-гадовую сястру. Абвінавачаны раней судзімы за крадзеж і забойства ў падлеткавым узросце. Пра прысуд 31-гадоваму Віктару Летаву было вядома ад праваабаронцаў. Ён быў вынесены восенню 2017 года, злачынства адбылося ў ВК-13 Глыбокае. Летаў, адбываючы пакаранне за забойства, забіў у калоніі іншага асуджанага.

Нагадаем, Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, дзе ўжываецца смяротнае пакаранне, і за гэта вельмі моцна крытыкуецца Еўрасаюзам. І гэтым разам Еўропа адрэагавала: паведамленне пра яшчэ двух пакараных смерцю ў Беларусі «носяць трывожны характар», гаворыцца ў заяве прэс-сакратара генеральнага сакратара Рады Еўропы Дэніэла Хольтгена. «Савет Еўропы заклікае Беларусь увесці мараторый на смяротнае пакаранне ў якасці першага кроку да яго канчатковай ліквідацыі. У Еўропе смяротнай кары няма месца», — гаворыцца ў каментары прадстаўніка Савета Еўропы.

На такім фоне Аляксандру Рыгоравічу будзе складана ехаць у ЕС. Варта пачакаць, пакуль жарсці ўціхамірацца.

Тым больш, што на носе ў яго — візіт Уладзіміра Пуціна. На тыдні сталіцу Беларусі з двухдзённым візітам наведаў міністр замежных спраў Расіі Сяргей Лаўроў. Ён сустракаўся са сваім беларускім калегам Уладзімірам Макеем і, канешне ж, з Лукашэнкам.

Пакуль пра візіт Пуціна ў Мінск нічога не чуваць, але палітолагі мяркуюць, што прыезд Лаўрова — гэта і ёсць падрыхтоўка да візіту ў Мінск расійскага кіраўніка. «Спецыфіка беларуска-расійскіх адносін складаецца ў тым, што нават многія тэхнічныя праблемы ўзаемадзеяння вырашаюцца на вышэйшым палітычным узроўні. Да прыкладу, без сустрэч кіраўнікоў часцяком не атрымліваецца разруліць гандлёва-эканамічныя спрэчкі. Прыезд Пуціна ў Мінск для Лукашэнкі вельмі пажаданы», — кажа, напрыклад, дырэктар Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі Андрэй Ягораў.

А яго калега Валерый Карбалевіч пісаў пра такі візіт і звязаныя з ім праблемы ў «Новым Часе» яшчэ тры тыдні таму.

Пуціну ёсць чым пацікавіцца ў Беларусі. Напрыклад, маштабным форумам «Мінскі дыялог», на якім было шмат гасцей з «варожага Захаду». А ў беларускага боку ёсць да кіраўніка Расіі пытанні па фармаванні газавых цэнаў. На мінулым тыдні Уладзімір Сямашка адправіў чарговы ліст намесніку старшыні ўрада Расіі Дзмітрыю Казаку з прапановай вызначыцца нарэшце з працягу перамоваў па цане на газ. «Для таго, каб вызначыць формулу цэнаўтварэння пры стварэнні адзінага еўразійскага рынку электраэнергіі і адзінага рынку нафты і газу», — сказаў Сямашка.

Карацей, калі лідары краін куды і паедуць, то не ў адпачынак.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Генадзь Фядыніч

**Кіраўніку прафсаюза РЭП, нягледзячы на настойлівыя просьбы сусветных прафсаюзаў, не дазволілі выезд за межы краіны.**

Фядынічу не дазволілі паехаць на канферэнцыю Міжнароднай арганізацыі працы ў Жэневе, хоць ён быў уключаны ў склад дэлегацыі глабальнага прафсаюза IndustriALL, якая ад 29 мая ўдзельнічае ў канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) у Жэневе. Прычым генеральны сакратар IndustriALL Вальтэр Санчэс у лісце да Следчага камітэта гарантаваў вяртанне прафсаюзнага лідара на радзіму.

Аднак кіраўнік следчай групы сказаў Фядынічу, што калі б за мяжу трэба было ехаць для лячэння, то тады, верагодна, дазвол далі б. А міжнародная канферэнцыя не з'яўляецца падставай для паездкі ў Жэневу пры такой крымінальнай справе.

Нагадаем, Фядыніч знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, бо з'яўляецца фігурантам крымінальнай справы па ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. Яму пагражае абмежаванне волі на тэрмін да 5 гадоў або пазбаўленне волі на тэрмін ад 3 да 7 гадоў з магчымай канфіскацыяй маёмасці. Сам Фядыніч і праваабаронцы лічаць гэтае абвінавачванне палітычна матываванымі.

Па такім жа артыкуле ў 2011 годзе быў зняволены праваабаронца Алесь Бяляцкі, якога прысудзілі да 4,5 гадоў калоніі. Суд па справе Фядыніча можа адбыцца ўжо ў чэрвені.



## Раман Бяссмертны

**Дыпламат, былы пасол Украіны ў Беларусі абвясціў аб сваім вылучэнні ў прэзідэнты Украіны. Пасол заявіў аб удзеле ў прэзідэнцкай кампаніі 2019 года для «перазагрузкі дзяржавы».**

Пра гэта ён сказаў на сустрэчы з журналістамі, палітолагамі і грамадскімі дзеячамі ў галерэі "Усе свае" ў Кіеве 29 мая. Сустрэча была прысвечана 25-годдзю палітычнай дзейнасці Бяссмертнага.

«Я сапраўды буду балатавацца. Вы мяне пыталіся — я не буду вас мучыць. У свой час афармлю адпаведныя дакументы», — заявіў Бяссмертны. Паводле яго слоў, неабходна спыніць перотварэнне ўкраінскай палітыкі ў шоў. «Ва Украіне няма палітыкі. Мы скаціліся да сюжэту тэатральнага спектакля. Чалавек і палітык патрэбныя адзін аднаму, толькі калі адзін — у ролі гледача, а другі — у вобразе акцёра», — сцвярджае ён.

«Рамантаваць няма чаго. У большасці выпадкаў трэба пачынаць з нуля. Патрэбны новыя дзяржаўныя інстытуты», — сказаў ён. Адным з «новых інстытутаў» палітык назваў двухпалатны парламент, які павінен замяніць цяперашнюю аднапалатную Вярхоўную Раду. Спадзяемся, ён гэтаму не ў Лукашэнкі навучыўся.

Бяссмертнаму 52 гады. Ён — дэпутат Вярхоўнай Рады чатырох скліканняў. У 2005 годзе працаваў віцэ-прэм'ерам па пытаннях адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы. У 2015–2016 гадах быў прадстаўніком Украіны ў палітычнай падгрупе трохбаковай кантактнай групы па ўрэгуляванні сітуацыі на Данбасе.

Выбары прэзідэнта Украіны павінны прайсці да 31 сакавіка 2019 года.



## Аляксандра Сасновіч

**Адзіная беларуская тэнісістка здолела выйсці ў другі раўнд турніру «Ралан Гарос».**

Аляксандра Сасновіч выйграла ў першым раўндзе ў 103-й ракеткі свету Дзяніс Алертавай з Чэхіі — 6:4, 6:3.

І ў першым, і ў другім сэце беларуска выдатна праводзіла канцоўкі партый, робячы брэйкі і адыгрываючы шматлікія брэйк-пойнты суперніцы. Усяго ў гэтым матчы Аляксандра выратавала 81% брэйк-пойнтаў і пры гэтым рэалізавала 46% сваіх.

У другім раўндзе Сасновіч згуляе з 22-й ракеткай свету Кікі Бертэнс з Нідэрландаў. Бертэнс на старце ўпэўнена абыграла яшчэ адну беларуску — Арыну Сабаленка. Арына дапускала велізарную колькасць памылак і не змагла навязаць барацьбу суперніцы, саступіўшы 2:6, 1:6. У пасіве Сабаленка 37 нявымушаных і 6 двайных памылак.

Нагадаем, што тытулаваная Вікторыя Азаранка прайграла чэшцы Кацярыне Сініяковай (5:7, 5:7) і завяршыла выступ у адзіночным разрадзе.

# «Усходняе партнёрства»: што далей?

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**За 10 гадоў да праграмы «Усходняе партнёрства» ўзнікла шмат прэтэнзій і ў тых дзяржаў, што ідуць у фарватары еўрапейскага партнёрства, і ў тых, хто заўважна адстаў. Аднак ніводная з краін-удзельніц не збіраецца адмаўляцца ад такога фармату супрацоўніцтва з Еўрапейскім саюзам.**



Тэма «Усходняга партнёрства» гучала лейтматывам і падчас дыскусій форума «Мінскі дыялог». Юбілейны рубеж стаў нагодай для абмеркавання далейшых перспектываў гэтай праграмы. Удзельнікі выклалі «Новаму Часу» свой погляд на сітуацыю.

## Для Украіны «штонікі сталі кароткімі»

«Нясціпла скажу: Украіне належыць гонар, што «Усходняе партнёрства» наогул з'явілася», — зазначыў Аляксей Семяній, дырэктар Інстытута глабальных трансфармацый.

«Усходняе партнёрства» (УП) нарадзілася з палітыкі суседства, якая ў свой час была прынятая ў Еўрапейскім саюзе. Улічваючы імкненні да больш глыбокай інтэграцыі, яна не задавальняла ўкраінцаў. У палітыцы суседства было занадта шмат зусім розных краін. «Украіна была адзіная, што адразу заявіла: мы лічым гэты падыход не зусім правільным», — сказаў Аляксей Семяній. Акцэнт украінцаў быў зроблены якраз на тым, што Усходняя Еўропа адрозніваецца ад астатніх. І таму з ёй павінна быць асобная палітыка. «ЕС тады не пагадзіўся. А потым як бы постфактум прызнаў сваю памылку, і запусцілася праграма "Усходняга партнёрства"». Дзякуючы ўдзелу дзвюх краін, Польшчы і Швецыі, якія актыўна яе прасунулі.

Зараз наконт «Усходняга партнёрства» ўкраінскія прадстаўнікі таксама заяўляюць: «не адпавядае амбіцыям Украіны».

— З падпісаннем дамовы аб асацыяцыі мы наогул перайшлі ў фармат вельмі глыбокай кааперацыі — зоны свабоднага гандлю. Гэтых усіх рэчаў «Усходняе партнёрства» не дае, — зазначыў Уладзімір Хандогій, прэзідэнт Украінскай асацыяцыі знешняй палітыкі. — Для некаторых дзяржаў, якія ніколі не ставілі перад сабой мэту ўступлення ў ЕС альбо нават інтэграцыйныя працэсы, такіх, як можа быць Арменія, Беларусь, — гэта добры нармальны фармат супрацоўніцтва. Для Украіны, Грузіі, Малдовы — гэтыя штонікі караткаватыя. Таму мы дастаткова скептычна ставімся да «Усходняга партнёрства». Мы працягваем працаваць у гэтым фармаце. Але наш асноўны ўпор — гэта двухбаковыя стасункі: Украіна — Еўрапейскі саюз.

Такім чынам, Украіна ўжо мае з ЕС падпісаную дамову аб асацыяцыі, бязвізавы рэжым, іншыя двухбаковыя пагадненні і фарматы. Канкрэтнай распрацоўкай праграм у розных галінах супрацоўніцтва займаюцца міністэрствы. Спектр шырокі — ад рэгламентацыі экалагічных нормаў да рэформы органаў унутраных спраў. «І па факту ў шэрагу сфераў ажыццяўляецца працэс інтэграцыі без фармальнага сяброўства ў ЕС», — паведаміў Аляксей Семяній.

— У тым, што датычыцца спробаў руху адным тэмпам усіх шасці краінаў «Усходняга партнёрства» — мы ніколі не былі асабліва прыхільнікамі гэтага падыходу, — кажа ўкраінскі эксперт.

— Разумеючы, што шэсць краін вельмі розныя. Іх падзяляюць часам на дзве групы. Але насамрэч сітуацыя складаней. Кожная краіна мае свае асаблівасці, нягледзячы на тое, што, так, зараз можна дзяліць краіны, якія падпісалі пагадненне аб асацыяцыі і якія не падпісалі. Хаця нядаўна Арменія таксама падпісала даволі аб'ёмнае пагадненне з ЕС. Але гэта не пагадненне аб асацыяцыі. Плюс асобная пазіцыя Азербайджана, асобная палітыка Беларусі, якая таксама ў апошні час мае новыя акцэнты. Але ў агульным пазіцыя Украіны да «Усходняга партнёрства» канструктыўна-скептычная. Калі ёсць нейкая карысць — так, мы, канечне, гатовы і падтрымаць ініцыятывы, і развіць. Але, улічваючы агульную рамку, больш перспектыўным для нас выглядае двухбаковы трэк Украіна — Еўрапейскі саюз.

***— Ініцыятыва «Усходнееўрапейскае партнёрства» — жыццяздольная? Альбо яна вычэрпвае сябе?***

— Усё залежыць ад імкненняў дзяржаў, што ўдзельнічаюць у ёй, — лічыць Уладзімір Хандогій. — Калі яна ім падыходзіць як фармат супрацоўніцтва, то яна жыццяздольная. Для Украіны гэтага малавата. Аднак мы працуем у гэтым фармаце, мы ж не адмаўляемся.

***— Ваша стратэгічная мэта — уступленне ў ЕС?***

— Безумоўна. Наша мэта пакуль, скажам мякка, не знаходзіць разумення сярод нашых еўрапейскіх партнёраў. Але ніколі не кажы «ніколі». Мы працягваем актыўна працаваць. Вядзем працу па набліжэнні Украіны да стандартаў у розных галінах Еўрапейскага саюза. Паралельна наш курс і на ўступленне ў NATO на сённяшні момант задэклараваны і з'яўляецца стратэгічным.

## Голас Беларусі не чуюць

«Усходнім партнёрствам» не задаволеныя і беларускія ўлады. З крытыкай падчас «Мінскага дыялога» выступіў кіраўнік камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Валерый Варанецкі. Афіцыйны Мінск практычна не ўдзельнічае ў двухбаковых стасунках. «І голас Беларусі не чуюць у межах тых праектаў і праграм, якія плануюцца ў двухбаковым вымярэнні. На жаль, недастаткова сёння праектаў і праграм, якія нацэлены на Беларусь з пункту гледжання канкрэтнага выніку», — заявіў дэпутат.

На яго думку, фармат узаемадзеяння павінен быць сур'ёзна перагледжаны. «Сёння неабходна прагматызацыя ўсходняй палітыкі Еўрапейскага саюза», — заявіў ён. ЕС павінен падумаць над тым, каб улічыць інтарэсы ўсіх краін УП. «І, натуральна, тут не павінна быць дыскрымінацыі. Кожная з нашых краін павінна быць у поўнай меры ўцягнутая ў працэсы супрацоўніцтва, ва ўзаемадзеянне ва ўсіх фарматах, якія сёння існуюць у рамках "Усходняга партнёрства"», — падкрэсліў Валерый Варанецкі.

Цяжкасці з прарывам у супрацоўніцтве беларускі бок тлумачыць тым, што «так склалася гістарычна». З-за тых палітычных абмежаванняў і санкцый, якія накладваліся на развіццё адносінаў з Беларуссю. Таму і ў рамках фарміравання самой палітыкі «Усходняга партнёрства» ўдзел афіцыйнага Мінска закладваўся першапачаткова як абмежаваны. Яго прадстаўнікі не ва ўсіх трэках УП узаемадзейнічалі, абмежаваная і праектная дзейнасць.

— Еўрапейскі саюз вельмі кансерватыўны з пункту гледжання прыняцця рашэнняў, — кажа Валерый Варанецкі. — І для таго, каб выйсці на новую дынаміку, еўрасаюзаўскім прадстаўнікам трэба падысці да гэтага, саспець. Усё ж такі гэта павінны быць узгодненыя інтарэсы ўсіх краін-сябраў Еўрасаюза. І кожная краіна мае сваё бачанне, свой погляд. І я не схаваю — у тым ліку і сярод нашых прамых суседзяў ёсць краіны, якія сёння імкнуцца перашкаджаць развіццю адносінаў паміж Беларуссю і ЕС. Гэта комплекс пытанняў, што маюць у значнай ступені палітычную прыроду. Гэта тармозіць развіццё.

Тым не менш, «сектаральныя дыялогі» з Беларуссю ў межах УП па пэўных кірунках вядуцца. Аднак бракуе канкрэтных праектаў і вынікаў. Калі казаць па буйному, то іх зараз не назавеш. «Але не можа ж праект «Усходняга партнёрства» абмяжоўвацца палітычнымі дэкларацыямі. Ён таксама павінны напаўняцца канкрэтыкай. І вось тут мы бачым сур'ёзныя недахопы. Але перамовы вядуцца. І больш за тое, быццам бы як бы і падышлі да выхаду на вынік. Але выніку ўсё роўна пакуль няма. І нашы грамадзяне не адчуваюць канкрэтнага выніку ўзаемадзеяння з ЕС. У гэтым і ёсць сур'ёзны недахоп «Усходняга партнёрства» прынамсі для Беларусі», — канстатаваў дэпутат Палаты прадстаўнікоў.

Перамовы ідуць і па лібералізацыі візавага рэжыму для беларусаў. Са свайго боку, як вядома, Беларусь прыняла рашэнне пра бязвізавы ўезд для замежнікаў да 5 дзён. Разглядаецца пытанне аб павелічэнні гэтага тэрміну.

***— Ці варта Беларусі чакаць практычных крокаў з боку «Усходняга партнёрства»?***

— Мы, безумоўна, на гэта разлічваем, — сказаў Валерый Варанецкі. — Мы чакаем гэтага. Мы кажам пра тое, што неабходна прагматызацыя адносінаў, выхад на канкрэтныя праекты. Я думаю, што ў Еўрасаюза спее гэта разуменне. І я ўпэўнены, што мы падыдзем да гэтага. Але па часавых параметрах — мне цяжка зараз ацэньваць. Я думаю, што можа быць у МЗС сёння ёсць больш дакладнае адчуванне таго, што мы падышлі.

Але пакуль я са свайго боку бачу, што яшчэ мы не выйшлі на тое, каб з Беларусі былі зняты ўсе абмежаванні. І каб мы маглі выйсці на падпісанне базавага пагаднення паміж Беларуссю і ЕС. І на гэтай падставе развіваць поўнафарматнае супрацоўніцтва па розных накірунках узаемадзеяння. Гэта і, натуральна, інвестыцыі, эканоміка, прамысловасць, экалогія, перамяшчэнне грамадзян і г.д. То-бок увесь комплекс пытанняў, якія цікавяць і Беларусь, і ЕС. Але важна, што мы ідзем у гэтым накірунку. І атмасфера ў стасунках сур'ёзна змянілася ў лепшы бок. Таму прыйдуць і канкрэтныя вынікі. Я ў гэтым не сумняваюся. Але мы ж кажам пра сённяшні дзень. На сённяшні дзень пахвастацца асабліва нечым.

***— Ад Беларусі чакаюць нейкіх крокаў, альбо толькі Еўрасаюз саспявае?***

— І ад нас чакаюць пэўных крокаў. Яны ў агульным вядомыя. Гэта пытанні, звязаныя з адменай смяротнага пакарання, з удасканаленнем выбарчага заканадаўства. Такі комплекс пытанняў... Ну і ўнутраныя працэсы. Я казаў, у структурах ЕС дастаткова кансерватызму, ідзе выспяванне новага падыходу, новай канцэпцыі адносінаў з Беларуссю ў самім Еўрапейскім саюзе.

## «Агульны кошык не працуе»

«Еўрапейскі саюз саспеў для разумення таго, што агульны кошык і агульны падыход не працуюць. Неабходны індывідуальны падыход для кожнай краіны-удзельніцы», — лічыць Алена Карасцялёва, дырэктар Цэнтра глабальнай Еўропы.

Такі падыход ЕС прымяніў нядаўна да Арменіі — у лістападзе 2017-га было падпісана пагадненне аб партнёрстве (SEPA). Арменіі будзе аказана фінансавая дапамога 175 мільёнаў еўра. Далей плануецца пачаць абмеркаванне па лібералізацыі візавага рэжыму.

— Азербайджан таксама працуе над новым пагадненнем партнёрства, якое будзе адрознівацца ад іншых, што заключыў Еўрасаюз з усходняй прасторай. І ў Беларусі ёсць такая ж магчымасць, — мяркуе Алена Карасцялёва. — Я лічу, гэтай магчымасцю зараз трэба скарыстацца. То-бок менавіта паспрабаваць распрацаваць тое, што дазволіць інтарэсам Беларусі сустрэцца з інтарэсамі Еўрасаюза. Калі перамовы нас прывядуць да канкрэтных рашэнняў, тады гэта пагадненне адкрые нам цалкам новыя магчымасці. Наконт інвестыцый, развіцця інфраструктуры, той жа аховы здароўя, адукацыі, транспарту. Мы ўжо кажам не пра тысячы, мы кажам пра мільярды ўкладанняў, якія могуць дапамагчы Беларусі выйсці на той рубеж, які яна для сябе ставіць.

Аднак пры ўсіх новых трэндах, як адзначылі эксперты, Беларусь перш за ўсё сама павінна рабіць крокі. «Усходняе партнёрства» — гэта рух насустрач адзін аднаму і ўзаемны сустрэчны рух.

# Беларуская пенсія: свеціць, але не грэе

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Партал сацыяльнай абароны насельніцтва зрабіў сэрвіс пад назвай «калькулятар пенсій». З яго можна даведацца толькі адно — годных пенсій беларусам пакуль не відаць.**




Фота www.profiz.ru

**Працуе на пенсіі кожны чацвёрты беларус — 24,9% ад агульнай колькасці пенсіянераў. У 2017 годзе 646 тысяч беларусаў працягвалі працаваць пасля выхаду на заслужаны адпачынак. Але скарачаецца і гэтая лічба. У 2015 годзе працуючых пенсіянераў была 651 тысяча**

Але сервіс усё ж такі вельмі цікавы. І прываблівае сваёю шчырасцю і адкрытасцю з першай жа старонкі.

### Які ж у нас заробак?

Побач з калькулятарам змяшчаюцца асноўныя паказчыкі таго, сыходзячы з чаго пенсія і разлічваецца. З іх мы даведваемся, што мінімальная пенсія складае 51,65 рубля.

Праўда, гэтая мінімальная пенсія на сайце — толькі для разлікаў. У рэаліях выплачваецца «мінімальная сацыяльная пенсія», якая складае 50 працэнтаў бюджэту пражытковага мінімуму.

А бюджэт пражытковага мінімуму зараз — аж 206,58 рубля. «Сацыяльная пенсія» пераканаўча даказвае, што аніякай сацыяльнай дзяржавы ў нас не існуе і блізка. Дзяржава, якая забяспечвае мінімальную сацыяльную пенсію ў два разы меншую за пражытковы мінімум — то бок, неабходны для простага выжывання ўзровень, — наўрад ці можа называцца «сацыяльнай».

Але гэта яшчэ не самая цікавая лічба!

Паводле дадзеных парталу сацыяльнай абароны насельніцтва, сярэдні заробак па краіне ў нас складае 696 рублёў 88 капеек. А зараз звернемся па дадзеныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі. Паводле яго, намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў Рэспублікі Беларусь у красавіку 2018 года склала 921 рубель.

Улічваючы, што ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва мы сплачваем падаткі менавіта з налічанага заробку, наўрад ці партал сацыяльнай абароны будзе паказваць рэальна выдадзены заробак — то бок, заробак ужо за вылікам падаткаў і збораў. Такая лічба на гэтым рэсурсе — проста ні да чаго. Тым больш, што лічба на партале — «працоўная». Яна патрэбная для разліку каэфіцыенту заробку (каэфіцыент разлічваецца проста: заробак працоўнага «бруднымі», то-бок без выліку збораў і падаткаў, дзеліцца на сярэдні налічаны (!) заробак па краіне). Значыць, лічба 696,88 — гэта лічба сярэдняга налічанага заробку па краіне ад парталу сацыяльнай абароны.

І гэтая лічба аніяк не карэлюецца з лічбай Белстата.

Пытанне: хто хлусіць? Белстат ці...?

### Пенсій не відаць

Самае складанае ў пенсійным калькулятары — вылічыць каэфіцыент заробку. Але гэтым мы замарочвацца не будзем. Мы возьмем умоўна «сярэднестатыстычную» жанчыну, якая пасля школы паступіла ва ўніверсітэт, ва ўзросце 23 гадоў яго скончыла. Пры гэтым нарадзіла двух дзяцей — то бок, два разы сыходзіла ў дэкрэтны адпачынак (мінус шэсць гадоў стажу). І пры гэтым усё жыццё працавала, скажам, настаўніцай у адной і той жа школе, атрымліваючы сярэдні па краіне заробак (каэфіцыент = 1). Паводле новых правілаў, яна выйдзе на пенсію ў 60 гадоў. Такім чынам, у яе набіраецца 30 гадоў працоўнага стажу (1 год накінем на «выпрабавальны тэрмін»).

Пенсійны калькулятар кажа, што ў такім выпадку яе пенсія складзе сціплыя 303 рублі. Па 10 рублёў за кожны год працы.

Сума, канешне, уражвае адмоўна. Асабліва з улікам таго, што на працягу 30 гадоў кожны месяц гэтая настаўніца (дакладней, яе працадаўца) адлічвала ў Фонд сацыяльнай абароны каля трацінь свайго заробку.

Але і гэта яшчэ не самае прышпільнае. Самае прышпільнае (узрадуйцеся, феміністкі!), што працоўны мужчына ў тых жа ўмовах (30 гадоў стажу з сярэднім па краіне заробкам) атрымае 279 рублёў пенсіі. То-бок, у роўных умовах пенсія ў мужчын ніжэйшая. Чаму? «Сие тайна великая есть, покрытая мраком».

### Пастка страхавога стажу

Але насамрэч апісаная намі беларуска — гэта такі, як кажуць у інтэрнэце, «сферычны конь у вакууме», то-бок, ідэальная мадэль. Жыццё ж няпростае, у ім ёсць розныя сітуацыі — добрыя і дрэнныя. І наўрад ці хто не апынаўся за 30 гадоў у складанай сітуацыі. Тым больш у нашы мабільныя часы наўрад ці хто будзе працаваць 30 гадоў на адным месцы працы.

І вось тут пачынаецца пастка: каб атрымаць працоўную пенсію па ўзросце і за выслугу гадоў (акрамя дасягнення ўстаноўленага ўзросту), патрэбная наяўнасць мінімальнага страхавога стажу. У 2018 годзе ён павінен быць не менш за 16 гадоў 6 месяцаў.

У чым праблема? Агульны працоўны стаж — гэта сукупная працягласць працоўнай, прадпрымальніцкай, грамадскай і іншай дзейнасці, усталяванай заканадаўствам. Ён уключае ў сябе, апроч працоўнай дзейнасці, ваенную службу, дэкрэтны адпачынак, перыяд часовай непрацаздольнасці, перыяд знаходжання на інваліднасці, а таксама адпачынак па доглядзе за інвалідам і іншае.

Страхавы ж стаж — гэта час, у які працадаўца (альбо сам грамадзянін, як прадпрымальнік) рабіў абавязковыя адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. То-бок, вышэйпералічаныя пункты (апроч працоўнай дзейнасці) у гэты стаж не ўключаюцца.

Такім чынам, напрыклад, чалавек, які даглядае інваліда, атрымлівае стаж працоўны, але не атрымлівае страхавы! І на падставе адсутнасці страхавога стажу пенсія яму не налічваецца ўвогуле!

У гэтую пастку трапіла даволі шмат народу. У выніку нашы дэпутаты «зрабілі ласку»: для тых, хто даглядаў інвалідаў І групы, дзяцей-інвалідаў да 18 гадоў або састарэлых сваякоў, а таксама для сілавікоў і вайскоўцаў, якія адслужылі мінімум 10 гадоў, але не паспелі атрымаць права на спецыяльную пенсію, — мінімальны страхавы стаж скарацілі да 10 гадоў. Але для ўсіх астатніх ён павялічваецца кожны год на паўгода і да 2025 года павінен скласці 20 гадоў.

Варта адзначыць, што ў параўнанні, напрыклад, з Расіяй і Украінай, страхавы стаж у Рэспубліцы Беларусь мае самыя строгія правілы вылічэння. У згаданых краінах у страхавы стаж не ўключаецца толькі навучанне ў ВНУ і ССНУ, усталяваныя пэўныя межы па працягласці дэкрэтнага адпачынку (у Расіі — па 1,5 гады на адно дзіця, ва Украіне — па 3 гады).

Між тым, у той жа Украіне з 2018 года страхавы стаж таксама падвышаецца — з 15 да 25 гадоў па беларускім прынцыпе: са штогадовым павелічэннем на 12 месяцаў. Але тым, хто з-за навацыяў не паспявае набраць страхавы стаж, закон дапускае яго кампенсацыю праз плацяжы ў пенсійны фонд. Абмяркоўваецца такі варыянт і ў Літве.

У нас «дакупіць» страхавы стаж нельга, і пакуль такая магчымасць, па словах міністра працы і сацыяльнай абароны Ірыны Касцевіч, не разглядаецца.

### Сітуацыя будзе пагаршацца

Зразумела, пенсійная рэформа адбываецца не ад добрага жыцця. У Беларусі скарачаецца колькасць працоўных і павялічваецца колькасць пенсіянераў, чаго Фонд сацыяльнай абароны не вытрымлівае.

Як вынікае са зборніка Белстата «Беларусь у лічбах, 2018», колькасць занятых у эканоміцы на аднаго пенсіянера скарачаецца. Калі 2014 годзе на аднаго пенсіянера прыпадала 1,69 працоўных, то ў мінулым годзе — толькі 1,59. У 2016 годзе на 100 працуючых беларусаў прыпадала 62 пенсіянеры.

Працуе на пенсіі кожны чацвёрты беларус — 24,9% ад агульнай колькасці пенсіянераў. У 2017 годзе 646 тысяч беларусаў працягвалі працаваць пасля выхаду на заслужаны адпачынак. Але скарачаецца і гэтая лічба. У 2015 годзе працуючых пенсіянераў была 651 тысяча.

Такім чынам, хутка проста не будзе за кошт каго плаціць пенсіі.

### Як зарабіць пенсію?

Што ж рабіць беларусу ці беларусцы, каб зарабіць не дзяржаўныя слёзы, а годную пенсію?

Выйсце, падаецца, відавочнае. Калі дзяржава не ў стане плаціць нармальную пенсію, ёсць тры варыянты.

Варыянт першы: нічога не плаціць у Фонд сацыяльнай абароны, а пенсію назапашваць самастойна. Да гэтага нас і падштурхоўвае «пенсійны калькулятар». Але гэта адначасова і стымуляванне «заробкаў у канвертах», з чым мы, падаецца, увесь час змагаемся з пераменнай паспяховасцю.

Але Фонд сацыяльнай абароны пенсіі не назапашвае — ён іх выплачвае. І, калі мы раптам спынім яго фінансаванне, то пенсіянеры не атрымаюць пенсіі зараз.

Другое выйсце апошнім часам падказваюць нам розныя высокія чыноўнікі і Аляксандр Лукашэнка персанальна: выхоўваць дзяцей так, каб яны дапамагалі састарэлым бацькам. Аднак як іх увогуле мець, гэтых дзяцей, калі іх нараджэнне і выхаванне дзяржава падтрымлівае толькі на словах, а на справе ну ніяк не ўлічвае дэкрэтны адпачынак у пенсійным забеспячэнні? Атрымліваецца замкнёнае кола: мы не нараджаем дзяцей, каб не згубіць пенсію, а пенсіі не будзе, таму што ў нас няма дзяцей (чытай — будучай працоўнай сілы, якая заплаціць унёскі ў ФСАН, калі на пенсію выйдзем мы).

Трэцяе выйсце — самае складанае. Гэта пачаць рэформу пенсійнай сістэмы. Не «рэформу» ў выглядзе падвышэння пенсійнага ўзросту, а «сістэмы». То-бок, як гэта і робіцца ў нармальных краінах (чытайце матэрыял Віталя Махнача «Хто корміць дармаедаў» у №13 «НЧ» за гэты год), перавесці ФСАН у нармальны, празрысты інвестыцыйны фонд. У якога не ўзнікаюць «дзіркі» невядома чаму, які не спансуе дзяржаўныя мегапраекты. Можна даць магчымасці назапашвальнай пенсіі — разам з дзяржаўнай. Шмат чаго можна зрабіць.

Але беларускія чыноўнікі ад сацыяльнай абароны, замест таго, каб выпрацаваць і пачаць рэформу пенсійнай сістэмы, толькі і робяць, што скардзяцца на недахоп грошай.

Выбачайце, а куды вы іх падзелі — нашы падаткі і адлічэнні?

# Віктар Шэйман: ваенны ў цывільным

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Пра гэтага чалавека напісана шмат. Ён — прадстаўнік пакалення, якое ўслед за Аляксандрам Лукашэнкам адносна лёгка ў далёкім 1994 годзе прыйшло да ўлады, і больш ад гэтай улады адмаўляцца не жадала.**

26 мая яму споўнілася 60 гадоў. Для яго — самы час падвесці пэўныя вынікі, а для нас — прасачыць шлях ад звычайнага вайскоўца да чалавека, які шмат гадоў быў «нумарам два» ў краіне.

## З дэсантніка — у дэпутаты

Новы 1990-ы і надышоўшае дзесяцігоддзе не абяцалі 31-гадоваму дэсантніку-афганцу, жыхару Паўднёвага гарадка Брэста Віктару Шэйману нічога экстраардынарнага. Маёр, уладальнік ордэна Чырвонай Зоркі і медаля «За адвагу», добры сем'янін, бацька сына і дачкі. І хаця Шэйман атрымліваў гарантаваны заробак, раз-пораз у галаву заляталі трывожныя думкі: што будзе далей?

Савецкі Саюз быў на мяжы развалу, і Шэймана, як мільёны іншых вайскоўцаў, не мог не турбаваць далейшы лёс. Аднак дапамагла падзея, якая закранула ўсіх: выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання, прызначаныя на 4 сакавіка 1990 года.

Шэйман памятаў леташнія выбары народных дэпутатаў СССР і дзівіўся таму, як простыя працоўныя ці служачыя лёгка перамагалі партыйных бонзаў і высокіх чыноўнікаў, атрымлівалі агульнасаюзную вядомасць. Шэйман палічыў, што не горш за іншых, і вырашыў лавіць птушку шчасця. А раптам?

І вось з аднаго з лютаўскіх нумароў газеты «Заря» — органа Брэсцкага абкаму і гаркаму КПБ — жыхары горада над Бугам даведаліся, што па Брэсцкай-Паўднёвай выбарчай акрузе №105 сярод васьмі кандыдатаў зарэгістраваны ваеннаслужачы вайсковай часткі №92616 Віктар Уладзіміравіч Шэйман. З уліковай карткі кандыдата можна пабачыць, што беларус Шэйман (ураджэнец Гродзенскай вобласці. — аўт.) атрымаў адукацыю інжынера па эксплуатацыі гусенічнай і калёснай тэхнікі ў Богам забытым расійскім Благавешчанскім вышэйшым танкавым вучылішчы. У архіве захавалася напісаная цвёрдым, амаль каліграфічным почыркам заява Шэймана аб згодзе балатавацца кандыдатам у дэпутаты.

На фоне астатніх кандыдатаў будучы ўсёмагутны сакратар Савета бяспекі, генеральны пракурор і кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі выглядаў даволі сціпла. Усе яго супернікі (некаторыя былі нашмат старэйшыя за Шэймана) займалі добрыя пасады. Гэта і начальнік базы эксплуатацыі радыётэхналагічнага абсталявання сувязі аэрапорта Брэста, і дацэнт кафедры праблем сацыялізму Брэсцкага політэхнічнага інстытута, і галоўны ўрач Брэсцкай абласной бальніцы, і начальнік тэхбюро завода «Цветотрон», і начальнік эксперыментальна-канструктарскага бюро машынабудаўнічага вытворчага аб'яднання Брэста, і вядучы інжынер Брэсцкага машынабудаўнічага аб'яднання.

На агульнасавецкае ваеннае свята 23 лютага «Заря» апублікавала перадвыбарчыя праграмы ўсіх кандыдатаў па акрузе №105. Віктар Шэйман прапаноўваў рэальны суверэнітэт Беларусі ў межах агульнасавецкай абноўленай федэрацыі; дакладнае размежаванне паўнамоцтваў партыйных і савецкіх органаў; істотную эканамічную самастойнасць прадпрыемстваў; падвышэнне жыццёвага ўзроўню і пашырэнне правоў чалавека; «снятие тайны с Чернобыльской катастрофы» і стварэнне ў Беларусі Камітэта па радыётэхнічным кантролі. Звычайная папулярная па тых часах праграма, пад якой падпісаўся б любы. Іншыя праграмы былі больш рашучыя: прыватная ўласнасць, адраджэнне культуры, гісторыі і мовы, ліквідацыя знакамітага шостага артыкула савецкай Канстытуцыі, свабода веравызнання і інш.



Гэта фота можа лічыць сапраўдным рарытэтам. Віктар Шэйман і народны дэпутат ад Камянецкай выбарчай акругі №124 Брэсцкай вобласці, ваеннаслужачы Валерый Зяленін. Крыніца: Заря. Чэрвень 1990 года.

Па выніках выбараў 4 сакавіка 1990 года 3 669 выбаршчыкаў (з 18 113, якія прынялі ўдзел у галасаванні) падтрымалі Шэймана, што дало яму права ўдзельнічаць у другім туры.

І тут трэба зрабіць важнае адступленне. З нагоды прызначэння Шэймана дарадцам Лукашэнкі па асобых даручэннях у пачатку студзеня 2013 года ў «Наша ніве» з'явілася публікацыя Міколы Бугая пра «пяць фактаў пра Віктара Уладзіміравіча». Там гаварылася, што на парламенцкіх выбарах 1990 года Шэйман перамог тэатральнага рэжысёра Рыгора Бакіевіча, кіраўніка рэгіянальнай структуры БНФ.

Аднак чалавек з прозвішчам Бакіевіч увогуле не значыцца ў спісе кандыдатаў па акрузе Шэймана, як і ўвогуле ў Брэсце ў 1990 годзе. У другі тур разам з ім выйшаў вядучы інжынер Брэсцкага машынабудаўнічага аб'яднання Адам Ярмоліч. 18 сакавіка 1990 года Шэйману даверылі мандат 8 654 выбаршчыкі з 15 242, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

Чым падкупіў выбаршчыкаў Шэйман? Напэўна, вайсковай стрыманасцю, асцярожнасцю. Нават у праграме адчувалася, што Шэйман пазбягае гучных словаў і пафасу.

Сваю ролю адыгралі і аб'ектыўныя фактары. Выбарчая акруга Шэймана была невялікай (напрыклад, Шклоўская выбарчая акруга №310 Аляксандра Лукашэнкі налічвала больш за 30 тысяч жыхароў) і складалася з пэўнай колькасці вайскоўцаў.

## Прафесійны народны абраннік

Дэпутацтва Віктара Шэймана з траўня 1990 года па верасень 1994 года — цікавая старонка жыцця палітычнага і дзяржаўнага дзеяча. Яна складаная ў тым, што Шэйман усяляк пазбягаў публічнасці, даваў даволі рэдкія інтэрв'ю і амаль не выступаў перад мікрафонам. У якасці першага зафіксаванага выступу Шэймана ў Вярхоўным Савеце можна пазначыць 22 чэрвеня 1990 года. Тады Шэйман унёс прапанову аб стварэнні часовай камісіі па справах частак і фармаванняў Узброеных Сіл СССР на тэрыторыі Беларусі. Аднак гэта прапанова падтрымкі не знайшла.

29 чэрвеня 1990 года Шэйман стаў чальцом часовай камісіі Вярхоўнага Савета па прывілеях (кіраўнік — Іван Герасюк). У тую ж камісію ўступілі будучыя ўплывовыя атачэнцы Лукашэнкі Іван Ціцянкоў і Леанід Сініцын.

У чэрвені 1990 года Шэйман даў інтэрв'ю «Заре» і падзяліўся ўражаннямі ад працы парламента.

У вочы кідаецца традыцыйная рыса Шэймана — пазбягаць рэзкіх, асабліва персанальных ацэнак. Напрыклад, на пытанне журналіста, ці пацвердзіў сваю дзеяздольнасць Вярхоўны Савет, Шэйман адказаў станоўча: маўляў, мы абралі старшыню, прэзідыум і пастаянныя камісіі. Гэтым ён кардынальна адрозніваўся ад эмацыйнага Лукашэнкі, які ў інтэрв'ю шклоўскаму выданню «Ударны фронт» летам 1990 года гнеўна прайшоўся і па парламенце, і па Мікалаю Дземянцею — яго старшыні.

У якасці дэпутата Шэйман спакойна ставіўся да нацыянальнай ідэі. На нечарговай пятай сесіі парламента 24–25 жніўня 1991 года Шэйман станоўча галасаваў за ўсе законапраекты, якія заклалі аснову незалежнай Беларусі: за наданне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце

статусу Канстытуцыйнага закона (Лукашэнка тады адсутнічаў), і, у адрозненне, напрыклад, ад Ціцянкова, за выключэнне з парадку дня пытання аб заключэнні новага Саюзнага дагавора. 19 верасня 1991 года Шэйман прагаласаваў за бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» ў якасці дзяржаўных сімвалаў.

У пачатку 1992 года Шэйман, атрымаўшы званне падпалкоўніка, канчаткова зрабіў свой выбар на карысць парламента. 15 студзеня пастановай Вярхоўнага Савета яго ўвялі ў склад камісіі па пытаннях, нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю (кіраўнік — Мечыслаў Грыб) на прафесійнай аснове, а ўжо 20 сакавіка таго ж года прызначылі яе сакратаром.

З таго часу жыццё Шэймана было непарыўна звязанае з Вярхоўным Саветам. 19 мая 1992 года ён увайшоў у рабочую групу Вярхоўнага Савета для міжпарламенцкай беларуска-літоўскай камісіі. 19 чэрвеня 1992 года быў прызначаны намеснікам камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў.

У Нацыянальным архіве захаваліся стэнаграмы пасяджэнняў камісіі. Напрыклад, 23 лістапада 1992 года камісія адмовілася зацвярджаць пяціканцовую зорку ў якасці знакаў адрознення афіцэраў.

17 мая 1993 года ў складзе дэлегацыі яго накіравалі на трэцяе пленарнае пасяджэнне Міжпарламенцкай асамблеі краін — удзельніц СНД. Пры галасаванні Шэйман падтрымліваў парламенцкую большасць па ўсіх прынцыповых пытаннях.

Аднак праблемы ўсіх парламентаў у тым, што іх паўнамоцтвы рана ці позна заканчваюцца. Віктар Шэйман шукаў, на каго б паставіць і атрымаць дывідэнды. Спачатку гэта было Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ) на чале з падпалкоўнікам Мікалаем Статкевічам, якое ўтварылася ўвосень 1991 года. Шэйман стаў ягоным сябрам і інфармаваў астатніх аб дзейнасці Вярхоўнага Савета.

Сяброўства Шэймана ў БЗВ распісаць вельмі цяжка з-за адсутнасці шырокага кола крыніц, аднак у фондах Нацыянальнага архіва ў матэрыялах «Славянскага Сабора Белая Русь» маецца дакумент: адмова падтрымаць Лукашэнку ў якасці кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 1994 года. Адна з прычын — сяброўства Шэймана ў БЗВ, хаця Шэйман і дыстанцыяваўся ад арганізацыі ў 1993 годзе. Прычына ў тым, што тагачасны міністр абароны Казлоўскі абвясціў барацьбу з палітычнымі рухамі ў войску. Вясной 1993 года з Узброеных Сілаў быў звольнены Статкевіч і самастойна сышоў Сяргей Гайдукевіч. Таму Шэйман вырашыў не рызыкаваць — тым больш, што на гарызонце намалявалася новая перспектыва ў асобе дэпутата Аляксандра Лукашэнкі.

### Паварот да Лукашэнкі

Пасля дакладу Лукашэнкі 14 снежня 1993 года па выніках працы часовай камісіі па вывучэнні камерцыйных структур пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, яго папулярнасць рэзка пайшла ўгару. Вакол яго пачало фарміравацца кола пэўных (у тым ліку і Шэйман), аднак абсалютна розных асобаў, мэта якіх палягала ў тым, каб прывесці дэпутата да ўлады. Пасля прыняцця Канстытуцыі 15 сакавіка 1994 года гэта было магчыма.

Пад ціскам кіраўніка ўрада Вячаслава Кебіча, які бачыў сябе ў прэзідэнцкім крэсле, Вярхоўны Савет у пачатку красавіка 1994 года абвясціў, што часовая камісія Лукашэнкі выканала сваю задачу, а таму спыняе дзейнасць. Аднак на нечарговай 14-й сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання, якая была прысвечана абранню чальцоў Канстытуцыйнага Суда, Лукашэнка і яго паплечнікі зрабілі спробу аднавіць дзейнасць камісіі. Адмысловую заяву зрабіў менавіта Шэйман, і скончыў яе такімі словамі: «Мужество потребуется Лукашенко, чтобы доказать свою порядочность». Аднак праца камісіі так і не была адноўленая, і Шэйман разам з Лукашэнкам заглыбіліся ў перадвыбарчую барацьбу.

У пачатку чэрвеня 1994 года Шэйман разам з народнымі дэпутатамі Іванам Ціцянковым, Анатолем Лябедзькам, Віктарам Кучынскім і Дзмітрыем Булахавым афіцыйны звярнуўся да кіраўніка Дзяржтэлерадыё Сталярова ў сувязі з закрыццём недзяржаўных радыёстанцый «Крыніца» і «Беларуская маладзёжная», якія даволі востра крытыкавалі палітыку Кебіча. Закрыццё радыёстанцый афіцыйна тлумачылася рэарганізацыяй Дзяржтэлерадыё, аднак палітычная падаплёка была відавочнай. У звароце дэпутатаў ультыматыўна заяўлялася: калі радыёстанцыі не будуць адноўленыя ў эфіры, парламентарыі ініцыююць збор подпісаў за адстаўку Сталярова.

### «Ліёзненскі інцыдэнт»

Радзіма Марка Шагала і невялічкі райцэнтр Віцебскай вобласці Ліёзна 16 чэрвеня 1994 года назаўсёды ўвайшлі ў найноўшую гісторыю Беларусі. А 24 гадзіне недалёка ад гарадка нібыта адбыўся стрэл па аўтамабілю «Мерседэс», у якім ехаў кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка і яго давераныя асобы. Машына 1981 года выпуску, у якой знаходзіўся і Шэйман, належала Ціцянкову. Іван Іванавіч ужо даўно забыўся на дэпутацкую дзейнасць і актыўна штурмаваў вяршыні бізнесу.

Пацярпелыя звярнуліся ў міліцыю і паказалі кулявую прабоіну ў левых задніх дзвярах. Экспертыза паказала, што стрэл быў зроблены з пісталета-аўтамата Сцечкіна калібра 7,65, які мог быць толькі ў праваахоўнікаў альбо ў кадравых ваенных. У цэлым вынікі экспертызы былі не на руку Лукашэнку: такая прабоіна, сцвярджалі спецыялісты, магла з'явіцца толькі тады, калі машына не рухалася. Экспертаў таксама бянтэжыў той факт, што пацярпелыя звярнуліся да іх толькі раніцай.

Неўзабаве КДБ праз СМІ заявіў, што замаху на жыццё Лукашэнкі не было, што гэта, хутчэй за ўсё, інсцэніроўка: маюцца сур'ёзныя разыходжанні паміж вынікамі следчага эксперымента і паказаннямі пацярпелых. Неўзабаве Кебіч заявіў, што арганізатарамі замаху былі Ганчар і Булахаў, якія жадалі атрымаць пасады ва ўрадзе, але ім адмовілі.

Тое, што «ліёзненскі інцыдэнт» аказаўся пшыкам, пацвердзіў старшыня КДБ Уладзімір Ягораў, выступаючы перад Вярхоўным Саветам 23 сакавіка 1995 года: «Никакой конкретики. Одни общие фразы».

Генеральны пракурор Васіль Капітан, адказваючы 19 чэрвеня 1996 года на пытанне дэпутата Генадзя Карпенкі («Два года назад стреляли в нашего «батьку». Как идёт дело?»), заявіў: «Дело приостановлено, так как не нашли стрелявших людей».

Аднак «дела» мела вынікі. У першым туры 23 чэрвеня 1994 года Лукашэнка атрымаў у Ліёзненскім раёне 93% галасоў. Ліёзна саступіла толькі радзіме будучага прэзідэнта — Шклову (96%).

А тое, што ў яго стралялі сапраўды, Лукашэнка, здаецца, паверыў ужо сам. 16 снежня 2010 года (за тры дні да Плошчы) беларускі кіраўнік на сустрэчы з журналістамі падчас наведвання аднаўленага замкавага комплексу ў Міры заўважыў: «Скорей всего, припугнуть хотели, если бы хотели убить, то убили бы».



Знаходжанне побач з Віктарам Шэйманам значыла вельмі шмат.
Крыніца: Навіны. Верасень 1999 года.

Аналітыкі і эксперты ў адзін голас сцвярджалі, што Ліёзна — справа рук Шэймана. Пра гэта публічна казалі Сяргей Антончык і Віктар Ганчар, які вінаваціў Шэймана яшчэ ў тым, што той праслухоўвае тэлефонныя размовы працаўнікаў Лукашэнкі. Шэйман старанна адмоўваўся.

### Улада? Улада! Улада...

Стаўшы кіраўніком дзяржавы, Лукашэнка прызначыў свайго вернага таварыша дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі і надаў гэтаму органу (шмат у чым дэкаратыўнаму пры Шушкевічы—Кебічы) самыя істотныя паўнамоцтвы. І тут Шэйман, напэўна, першы раз усвядоміў, якой улады і якіх магчымасцяў ён, былы сціплы вайсковец з сумнеўнымі перспектывамі, дасягнуў.

З імклівай энергіяй Віктар Шэйман стаў уладкоўваць сваё ведамства. Пра апетыты Віктара Уладзіміравіча сведчыць, напрыклад, дакумент ад 26 снежня 1994 года, які ўжо публікаваў «Новы Час», — просьба выдаткаваць для Дзяржаўнага цэнтра бяспекі інфармацыі пры Савеце бяспекі на 1995 год ажно 3 мільярды 580 мільёнаў рублёў.

Шэйман стаў адным з фігурантаў дакладу дэпутата ад БНФ Сяргея Антончыка ад 20 снежня 1994 года. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што Антончык не змог прад'явіць Шэйману якіх-небудзь фінансавых абвінавачванняў.

А вось пра што пытаўся Сяргей Антончык 20 снежня 1994 года: «Почему Шейман получил должность полковника? Академического звания не имеет, как Наполеон, больших сражений не выигрывал, за исключением лиозненской битвы». Спецыяльная камісія, якая правярала факты з даклада Антончыка, адказала: датэрміновае званне палкоўніка — законнае, бо

**Адзінае, што было некамфортна Шэйману, — абвінавачванні ў датычнасці да знікненняў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага. Шэйману закідвалі стварэнне спецыяльных «эскадронаў смерці» па ліквідацыі палітычных апанентаў рэжыму**

спецыяльным указам кіраўніка дзяржавы пасада дзяржсакратара Савета бяспекі прыроўненая да міністра абароны.

Нягледзячы на ўсё, Шэйман працаваў. Ён курыраваў самыя важныя палітычныя праекты Лукашэнкі: выбары і рэферэндумы. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2006 года Шэйман стаў кіраўніком перадвыбарчага штабу Лукашэнкі. Свае асобыя адносіны да Шэймана Лукашэнка пацвердзіў ва ўказе №175 ад 20 сакавіка 2006 года аб прызначэнні сябра дзяржсакратаром Савета бяспекі — усяго праз дзень пасля прэзідэнцкіх выбараў. Хаця, як вядома, такія ўказы павінны падпісвацца толькі пасля афіцыйнага ўступлення на пасаду.

Шэйман таксама пачаў палітыку ліквідацыі найбольш уплывовых паплечнікаў Лукашэнкі. У снежні 1994 года ў адстаўку сышоў віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар, у кастрычніку 1995-га — міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, які пасля публічна вінаваціў Шэймана ў сувязях з чачэнскай мафіяй. У снежні 1999 года Шэйману ўдалося перамагчы галоўнага канкурэнта за блізкасць да «цела» Івана Ціцянкова — кіраўніка Упраўлення справамі прэзідэнта. Апошні напісаў заяву па асабістым жаданні. Здаецца, і самому Лукашэнку ўжо надакучыў Іван, які раз-пораз трапляў у скандальныя сітуацыі.

Адзінае, што было некамфортна Шэйману, — абвінавачванні ў датычнасці да знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага. Шэйману закідвалі ледзь не стварэнне спецыяльных «эскадронаў смерці» па ліквідацыі палітычных апанентаў рэжыму. Пра гэта напісана шмат, таму паўтараць няма неабходнасці. Застаецца толькі канстатаваць, што, калі супраць гэтых людзей і былі праведзены спецаперацыі, Шэйман не мог пра іх не ведаць.

Цікава, што ў студзені 1990 года брэсцкая «Заря», якую Шэйман не мог не чытаць, апублікавала артыкул пад назвай «Сесар из эскадрона смерти». У ім ішла гаворка пра дзейнасць напачатку 1980-х гадоў тайных баявых атрадаў ультраправых у Сальвадоры. Чальцы атрадаў займаліся забойствам і выкраданнем сваіх палітычных праціўнікаў, ажыццяўлялі аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы і г.д.

У сувязі са знікненнямі палітыкаў у Беларусі можна прыгадаць і судовую позву Шэймана да газеты «Навіны» ў верасні 1999 года з-за публікацыі матэрыялу пад назвай «Кто в теремочках живёт?». Аўтар артыкула закранаў дом і зямельны ўчастак Віктара Шэймана ў вёсцы Падліпкі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Шэйман з ягонымі магчымасцямі мог бы і сам разабрацца з журналістам, аднак вывеў праблему на публічны ўзровень: вось, паглядзіце, усё вырашае толькі суд, таму я не маю ніякіх адносінаў да знікнення людзей. Як вядома, суддзя задаволіў позву: газета была вымушана спыніць сваю дзейнасць.

Хай і праз шмат гадоў, але прыйшла чарга і Шэймана. Гэта абумоўлена логікай няўмольных палітычных законаў, калі «маўр зрабіў сваю справу — і маўр павінен сысці». Гэта разумеў і сам Шэйман. Аднак, у адрозненне ад іншых былых прызначэнцаў Лукашэнкі, ён здолеў даказаць патрону сваю значнасць і неабходнасць і таму атрымаў пасаду кіраўніка Упраўлення справамі прэзідэнта. Гэтае ведамства пасля сыходу Ціцянкова перастала быць палітычным і сышло ў цень.

Аднак Лукашэнка нічога не робіць проста так. Ці спатрэбіцца Лукашэнку ў будучым паслугі Шэймана? Калі так, то ў якіх мэтах?

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Хто заплаціць за 1968-ы?

Увесь свет адзначае 50-ю гадавіну студэнцкай рэвалюцыі у Францыі ў 1968-м, якая аказала велізарны ўплыў на еўрапейскую цывілізацыю. Не прайшлі міма юбілею і ідэйныя нашчадкі тых, хто ў 1968-м выступаў супраць студэнтаў. У тым ліку нямецкае правае выданне «Junge Freiheit», якое ўзняло пытанне як мінімум маральнай кампенсацыі ахвярам пратэстаў, прынамсі, у Германіі. Тут у 1968-м моладзь таксама бунтавала і вельмі часта пераходзіла мяжу законаў. Актыўна практыкаваліся захопы прыватных і дзяржаўных устаноў або падпалы рэдакцый газет, якія лічыліся рэакцыйнымі. Напрыклад, у той час быў збіты рэктар універсітэта ў Кіле. Аднаму з парламентарыяў радыкалы Гамбургу, каб спыніць яго публічную прамову, разбілі аб галаву вазон. Асабліва ў гэтай сферы адзначыліся аматары старшыні Маа, якія, акрамя ўсяго, пераследавалі аднагодкаў, што не падзялялі левыя радыкальныя погляды. Прычым паліцыя была настолькі дэмаралізавана нахабствам левакоў, што заплюшчвала вочы на іх выхадкі. Нягледзячы на тое, што фактаў пра той гвалт хапае, ідэя ганьбавання іх арганізатараў выглядае ўтапічнай. У нямецкай эліце (дарэчы, і сярод кіраўніцтва правых партый) вельмі шмат тых, хто 50 гадоў таму кідаў камяні і кактэйлі Молатава.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў супраць паветраных шароў

Акімат (адміністрацыя) сталіцы Казахстана рэкамендаваў гарадскім школам у дзень «апошняга званка» 25 траўня адмяніць традыцыйны запуск у неба паветраных шароў. Паводле інструкцыі, паветраныя шары пагражаюць экалогіі. Між тым мясцовыя журналісты мяркуюць, што асцярогі з нагоды паветраных шароў узніклі ў акімата з палітычных матываў. Яшчэ ў сакавіку палітычны эмігрант і крытык казахскага ўраду Мухтар Аблязаў заклікаў праз інтэрнэт сваіх прыхільнікаў выходзіць на плошчы, трымаючы ў руках сінія ці блакітныя шары. Напрыканцы сакавіка ў казахскай сталіцы былі затрыманыя некалькі чалавек з шарыкамі. Людзей адпраўлялі ў паліцэйскія аўтобусы, правяралі дакументы, а пазней адпускалі без складання пратаколаў. Акцыя мела вялікі рэзананс праз абсурднасць учынкаў паліцыі, якая затрымлівала людзей, каб, па яе словах, «праверыць паветраныя шары». Гледзячы па ўсім, чыноўнікі пабаяліся, каб школьныя шары ў небе не былі ўспрынятыя простымі казахамі як чарговая апазіцыйная акцыя фанатаў Аблязава.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Чарговы артыст — кандыдат

Украінскі спявак Іва Бобул далучыўся да клубу артыстаў, якія вырашылі балатавацца на пасаду прэзідэнта на выбарах у наступным годзе. Раней пра такі намер ужо казалі комік Уладзімір Зяленскі і спявак Святаслаў Вакарчук, але заява Бобула выклікала вялікі інтарэс. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што Бобул — дастаткова вядомая сярод простых украінцаў самабытная асоба, якая чымсьці нагадвае нашага Саладуху. Адпаведная ў Бобула і праграма: у выпадку сваёй перамогі, ён абяцае забараніць ва Украіне пець «пад фанеру» і «змяніць сёе-тое». Што канкрэтна разумее музыкант пад гэтым «сёе-тое», тлумачыць ён адмаўляецца. Што тычыцца ўкраінскіх палітолагаў, то некаторыя з іх мяркуюць, што спявак — марыянетка Парашэнкі. Лічыцца, што Парашэнка за кошт артыстаў-кандыдатаў збіраецца дыскрэдытаваць выбары ў вачах электарату, і такім чынам знізіць яўку. У такім выпадку за кошт мабілізацыі адміністрацыйнага рэсурсу ў яго атрымаецца набраць патрэбную для перамогі колькасць галасоў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Брэтонцы не дурні!

На французскія экраны 20 чэрвеня выходзіць камедыя «Бекасін» (Bécassine), знятая па матывах папулярных сто гадоў таму коміксаў. У цэнтры сюжэта прыгоды Бекасін — дзяўчынкі з правінцыі, якая працуе ў якасці прыслугі ў вялікім горадзе і ўвесь час трапляе ў камічныя сітуацыі. Падавалася, ніякага палітычнага падтэксту тут няма. Між тым, гісторыя пра вясковую дурніцу раз'юшыла брэтонскіх нацыяналістаў. Справа ў тым, што Бекасін паводле коміксаў паходзіць з нейкай вёскі ў Брэтані. Такім чынам, смех з яе прыгод, паводле свядомых брэтонцаў, — смехам з усёй брэтонскай нацыі. Адна з груповак ужо заклікала да байкоту стужкі ў Брэтані. Таксама нацыяналісты збіраюцца сарваць прэм'еры карціны ў галоўных гарадах рэгіёну. Цікава, што французскія правыя ў сваю чаргу патрабуюць, каб брэтонцы прыбралі рукі ад Бекасін, бо яна — нацыянальны герой усёй Францыі.



**Паводле французскай прэсы**



Фота www.islam.ru

# Чатырыста гадоў Апакаліпсісу

Алег НОВІКАЎ

**Тры чалавекі былі скінутыя з вакна пражскага замка 23 мая 1618 года, 400 гадоў таму. Гэты ўчынак развязаў Трыццацігадовую вайну, якая, на думку некаторых, была для Еўропы больш разбуральнай, чым Другая сусветная.**

Калі верыць гісторыкам, у траўні 1945-га пераемнік Гітлера адмірал Дзёніц, нягледзячы на катастрафічны стан на фронце, увогуле не збіраўся выкідаць белы сцяг. Яго апаненты ў кіраўніцтве Германіі пераканалі Дзёніца падпісаць Акт аб капітуляцыі ў тым ліку спасылкамі на наступствы Трыццацігадовай вайны. Калі вайна працягнецца, казалі яны адміралу, краіна апынецца ў тым жа стане, у якім была ў 1648 годзе, калі была падпісаная мірная дамова, што нарэшце падвяла фінальную рысу пад тым канфліктам.

Тое, што Дзёніц паддаўся на падобныя аргументы, — не дзіўна, калі паглядзець канчатковую статыстку Трыццацігадовай вайны. Па яе выніках кожны трэці жыхар Германіі быў забіты або памёр. У некаторых рэгіёнах захавалася толькі палова насельніцтва. Да нашага часу ў краіне знаходзяць масавыя пахаванні ахвяраў тых падзей. Напрыклад, у 2008-м у Магдэбургу знайшлі магілы 125 шведскіх салдатаў. Паколькі напярэдадні той вайны ў небе з'явілася жудасная гіганцкая камета, шмат хто з сучаснікаў успрымаў вайну як Апакаліпсіс. Яе наступствы немцы бачылі яшчэ вельмі доўга. Германія пасля 1648-га аказалася падзеленая на каталіцкія і пратэстанцкія дзяржавы, згубіла статус міжнароднага актора больш чым на 200 гадоў.

Увогуле, менавіта спрэчка на рэлігійнай глебе і стала фармальным дэтанатарам вайны. 23 мая 1618 года пратэстанцкія дваране скінулі намеснікаў імператара Свяшчэннай Рымскай Імперыі, якія праводзілі прымусовую каталізацыю, у роў з высокага вакна ў пражскім градзе. Дэфенестрацыя (пад такой назвай гэта падзея трапіла ў падручнікі) хутка перарасла ў глабальны канфлікт за гегемонію Свяшчэннай Рымскай Імперыі ў Еўропе. Вайна закранула ў той ці іншай ступені практычна ўсе еўрапейскія краіны.

Цяперашняя гістарыяграфія намагаецца адыходзіць ад аднабокіх ацэнак. На думку гісторыкаў, катастрофа пачатку XVII стагоддзя выклікала шмат працэсаў, у тым ліку, напэўна, пазітыўных. Дастаткова сказаць, што вайна была першым буйным канфліктам пасля таго, як еўрапейцы асвоілі друк. Натуральны інтарэс людзей да навінаў з франтоў дапамог паўстанню правобразу сучасных газет, рэдактары якіх таксама прыдумалі першую ў гісторыі сетку карэспандэнтаў і схемы дастаўкі інфармацыі.

Вестфальскі мір 1648 года, які завяршыў этап Трыццацігадовай вайны, як лічаць некаторыя гісторыкі права, сфармаваў сённяшняе міжнароднае права як права ўзаемаадносін паміж нацыямі. З тых часоў міжнароднае права ўдасканальвалася і дапаўнялася, але яго прынцыпы — нацыянальны суверэнітэт, непарушнасць межаў, раўнапраўе дзяржаў — паўсталі менавіта тады.

**На думку гісторыкаў, катастрофа XVII стагоддзя выклікала шмат працэсаў, у тым ліку пазітыўных. Вайна была першым канфліктам пасля таго, як еўрапейцы асвоілі друк. Інтарэс да навінаў з франтоў дапамог паўстанню правобразу сучасных газет**

Нельга не згадаць пра фатальную ролю той вайны для феадальных парадкаў. Паколькі вайна вялася не атрадамі феадалаў, а прафесійнымі войскамі, спатрэбілася цэнтралізацыя дзяржаўнага апарату. Так фармаваўся абсалютызм, які абапіраўся на бюракратыю.

Сярод іншага, тагачасным бюракратам даводзілася думаць, дзе ўзяць срэбра, якім плацілі жаўнерам. У пошуках срэбра даводзілася актывізаваць знешнепалітычную і каланіяльную палітыку. Аднак гэта ў комплексе не выратоўвала сітуацыю. Манеты сталі вырабляць з меншай доляй срэбра, што прывяло да іх абясцэньвання. У выніку трэнду цалкам лагічным стала з'яўленне ў Еўропе папяровых грошай.

Наш рэгіён, дарэчы, тая вайна таксама не абышла. Па-першае, адсутнасць прадуктаў у разрабаванай Заходняй Еўропе прымушала дзяржавы — удзельніцы канфлікту больш актыўна гандляваць з перыферыяй. Такім чынам наш край станавіўся часткай адзінага глабальнага рынку. Па-другое, Расія вырашыла прыняць удзел у Трыццацігадовай вайне на баку пратэстантаў супраць каталікоў, каб адваяваць у каталіцкай Рэчы Паспалітай Смаленск. Але кампанія апынулася для расійцаў няўдалай. У 1633 годзе палякі атачылі рускую армію пад Смаленскам і прымусілі яе скласці зброю.

У цяперашняй расійскай прэсе пішуць, што Смаленскі правал выклікаў у Маскве сапраўдную траўму. Адмоўны вопыт Расіі ў Трыццацігадовай вайне спрыяў усведамленню элітай вострай патрэбы ў сістэмных рэформах. Паўстаў кансенсус, што толькі за кошт імпарту еўрапейскай практыкі краіна можа на роўных спаборнічаць з суседнімі дзяржавамі. Пад уражаннем ганебных паразаў 1633 года ў Расіі пачалася асцярожная вестэрнізацыя, кульмінацыя якой прыйшлася на часы Пятра Першага.

Што тычыцца заходніх гісторыкаў, то яны больш дэталёва заклікаюць вывучаць вайну 1618–1648 гадоў. Прынамсі, гісторыкі і палітолагі бачаць паралелі паміж той вайной і цяперашнім канфліктам у Сірыі. У абодвух выпадках мы назіраем, як мясцовае супрацьстаянне набывае глабальны характар. Спачатку лічылася, што паўстанне сірыйскіх сунітаў супраць дынастыі Башара аль-Асада — гэта нешта вельмі лакальнае. Цяпер гульцамі сірыйскага канфлікту з'яўляюцца Іран, Сірыя, Турцыя, Расія, ЗША, Францыя, Ізраіль, Вялікабрытанія — і, падаецца, гэта яшчэ не фінал. Застаецца толькі спадзявацца, што гэта толькі адзіная паралель паміж падзеямі ў цяперашнім свеце і жудаснай гуманітарнай катастрофай 400-гадовай даўніны.

# Інтрыга маскоўскіх выбараў

Алег НОВІКАЎ

**Восеньскія выбары мэра Масквы завочна трапілі ў падручнікі. Упершыню ў гісторыі за пасаду кіраўніка расійскай сталіцы будзе змагацца адкрыты гей Антон Красоўскі, чыя балаціроўка выклікала шмат спекуляцый.**



Фота www.positivepeople.md

Хаця да саміх выбараў яшчэ вельмі далёка, Красоўскага ўжо зараз называюць расійскім Харві Мілкам. Нагадаем, Харві Мілк — першы адкрыты гей, абраны ў 1977-м на дзяржаўную пасаду ў штаце Каліфорнія ў якасці чальца гарадскога назіральнага савета Сан-Францыска. Пасля таго, як Мілка забіў нейкі вар'ят, той стаў сапраўднай іконай для руху за правы сексуальных меншасцяў.

Параўнанне Антона Красоўскага з Харві Мілкам, напэўна, трошкі нацягнутае. Мілка да яго паходу ў палітыку мала хто ведаў, а імя Красоўскага дастаткова вядомае ў палітычных і журналісцкіх колах. Ён — былы галоўны рэдактар тэлеканала «Kontr TV», дырэктар фонду дабрачыннасці «СПИД.Центр» і ўдзельнік перадвыбарчага штабу Ксеніі Сабчак, з якой моцна пасварыўся. Яшчэ ў 2013 годзе Антон прызнаўся, што з'яўляецца геем і хворы на СНІД.

Аднак галоўная розніца паміж Мілкам і Красоўскім, напэўна, у знешнім антуражы. Прэцэдэнт перамогі Харві Мілка на выбарах з'явіўся адлюстраваннем шырокіх сацыяльна-палітычных і культурных зменаў у амерыканскім грамадстве. Ці можна цяперашнюю Маскву параўнаць з ліберальнай Каліфорніяй узору 1970-х? Пытанне, як мінімум, спрэчнае.

Нарэшце, Харві Мілк удзельнічаў у выбарах, на якіх у яго быў хоць нейкі шанец перамагчы. Пра будучыя выбары маскоўскага мэра такога сказаць нельга. Іх трыумфатар вядомы ўжо зараз. Калі верыць дадзеным сацыёлагаў «Лявада-цэнтра», рэйтынг усіх апанентаў Сяргея Сабяніна — цяперашняга маскоўскага мэра, які вырашыў пераабрацца, — не перавышае аднаго працэнта. Рэйтынг Сабяніна ж складае пакуль 34 працэнты. Няма сумневаў, што, мабілізаваўшы бліжэй да выбараў адмінрэсурс, Сабянін атрымае патрэбную для перамогі лічбу.

Трэба прызнаць, і сам Красоўскі не хавае, што перамога яму наўрад ці свеціць. «Само маё вылучэнне, з майго пункту гледжання, з'яўляецца ўжо перамогай — паспрабуйце знайсці яшчэ хоць аднаго адкрытага гея, які вылучаўся б на такую пазіцыю ў краінах былога СНД», — кажа прэтэндэнт у маскоўскія кіраўнікі. У такім ключы ўспрыняла ініцыятыву і аўдыторыя. Хіба што некаторыя лібералы абвінавацілі Красоўскага ў тым, што ён эксплуатуе тэму гамафобіі ў мэтах асабістага піяру.

Аднак па ходзе разгортвання кампаніі падыход да скандальнай кандыдатуры Красоўскага стаў паступова карэктавацца. Высоўваюцца версіі, што за дэмаршам гея хаваецца нейкі падступны план. Напрыклад, балаціроўка Красоўскага без сумневаў паляпшае імідж Крамля на Захадзе, дзе Расію стала вінавацяць у дзяржаўнай ксенафобіі. Зараз у падобных сітуацыях можна смела паказваць на Красоўскага. Кандыдат-гей таксама прыцягнуў інтарэс грамадскасці да выбараў, якія яшчэ ўчора мала каго ўвогуле цікавілі.

Акрамя таго, гей-кандыдат дапамагае змяніць шаблоны пра антыпуцінскую апазіцыю. Красоўскі кажа, што ён ліберал, аднак пры гэтым не хавае сентыментаў на адрас рэжыму і асабіста кіраўніка Расіі. «Я і зараз да Уладзіміра Пуціна стаўлюся з павагай і часам з захапленнем. Гэта гістарычны персанаж з абсалютна гістарычнымі дзеяннямі, які не каштаваў Расіі той крыві, якая ў Расіі звычайна бясконца льецца», — сказаў Красоўскі ў інтэрв'ю выданню «Медуза».

Пры гэтым ажыятаж вакол кандыдатуры Красоўскага адбываецца на фоне сумных разборак унутры старой апазіцыі. Апазіцыйная субкультура напярэдадні выбараў традыцыйна не змагла дамовіцца наконт адзінага кандыдата. Таму на пасаду мэра Масквы прэтэндуюць два апазіцыянеры — Дзмітрый Гудкоў і Ілля Яшын, якія па ходзе кампаніі не стамляюцца сварыцца паміж сабой. Такая канфігурацыя на флангу апазіцыі яўна гуляе на руку Красоўскаму. Побач з палітыканамі і грантасмокамі, ён выглядае як больш-менш сумленны чалавек.

**Красоўскі — з генерацыі маладых лібералаў, якія разумеюць, што ў цяперашніх рэаліях франтальная атака на ўладу «а-ля Навальны» не мае перспектыў. Таму яны намагаюцца інтэгравацца ў сістэму**

Маскоўскі журналіст Дзмітрый Кастэнка распавёў «Новаму Часу» пра перспектывы кандыдата-гея:

— Красоўскі — з генерацы маладых лібералаў, якія разумеюць, што ў цяперашніх рэаліях франтальная атака на ўладу «а-ля Навальны» не мае перспектыў. Таму яны намагаюцца не скандаваць лозунгі, а інтэгравацца ў сістэму. Нешта такое зараз робіць Сабчак. Што тычыцца Красоўскага, то сапраўдныя матывы яго кампаніі невядомыя. А вось шанцы ў яго сапраўды ёсць. Ён — новы твар, і можа стаць сваім для ліберальных масквічоў, якіх не так ужо мала. Па-другое, як бы гэта дзіўна не гучала, за Красоўскага ахвотна прагаласуюць тыя, хто ненавідзіць лібералаў. Калі кандыдат-гей атрымае больш галасоў за Яшына або Гудкова, скандалу ў «пачэснай кампаніі» не пазбегнуць. Праўда, перш за ўсё Красоўскаму трэба зарэгістравацца, што не так проста. Каб зарэгістравацца кандыдатам, Красоўскаму патрэбная пэўная колькасць подпісаў дзеючых дэпутатаў. Пагадзіцеся — дэпутату трэба мець нейкую мужнасць, каб даць подпіс такой асобе».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Крысціна Паўловіч

Дэпутатка польскага Сейму ад партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) у апошні час паставіла сапраўдны рэкорд наконт абразлівых заяваў на адрас палітычных апанентаў.

Апазіцыянеры атрымалі ад яе такія мянушкі, як «вулічныя дзеўкі», «ведзьмы», «хуліганы» і гэтак далей. Этычная мяжа, на думку прэсы, была пройдзеная 27 траўня, калі Паўловіч напісала ў Twitter наступны тэкст: «Хвіліну таму я была ў Сейме. На антрэсолі, у зале для прэсы і ў галоўнай зале на першым паверсе, цяжка перанесці смурод». У месцах, якія адзначае дэпутатка, праходзіць пратэст людзей з фізічна абмежаванымі магчымасцямі.

Пакуль публіка абураецца, палітолагі лічаць, што брутальная лексіка Паўловіч не выпадковая. Маўляў, гэта новая медыйная стратэгія PiS, якая дапамагае выстаўляць любую групу пратэстоўцаў як нейкую элітарную секту. У выніку сярод простых палякаў узнікае калектыўная думка, што тая секта, патрабуючы ад ураду нейкіх бонусаў, марыць сесці на шыю простага народа. Такая метода нагадвае лібералам практыкі камуністаў, якія падобным чынам намагаліся маргіналізаваць пратэсты.

Так ці інакш, Паўловіч рэальна разышлася не на жарт. Літаральна днямі яна назвала свайго апанента ў парламенце «нацысцкім злачынцам», што, паводле польскіх стандартаў, гарантуе выклік у суд.

### Шаўкат Мірзіёеў



Кіраўнік Узбекістана прыйшоў да ўлады ў 2016-м пасля смерці вельмі аўтарытарнага папярэдніка Іслама Карымава і, быццам, намагаўся трымаць дыстанцыю ад яго спадчыны. Аднак цяпер нешта зноў пачынае нагадваць часы Карымава.

Усё праз тое, што Мірзіёева прапанавалі вылучыць на Нобелеўскую прэмію міру. З такой ідэяй выступіў дэпутат кіруючай Ліберальна-дэмакратычнай партыі Узбекістана. На думку аўтараў ідэі, Мірзіёеў заслужыў прэмію, паколькі дзякуючы яму ва Узбекістане пануе мір. Але і гэта яшчэ не ўсё. Як лічаць ліберал-дэмакраты, Мірзіёеў заслугоўвае не толькі прэміі міру. «Ён (Мірзіёеў) заслугоўвае Нобеля і ў намінацыі «літаратура». Таму што прэзідэнт надае вялікую ўвагу развіццю літаратуры». Ён таксама можа спакойна атрымаць прэмію і ў галіне навукі, сцвярджаюць ліберал-дэмакраты.

Назіральнікі выказалі здагадку, што вылучэнне Мірзіёева на Нобелеўскую прэмію можа быць пачаткам новага культу асобы ва Узбекістане. Існуе таксама версія, што Мірзіёеў сам патрабаваў ад дэпутатаў вылучыць яго на Нобеля, каб у апошні момант раскрытыкаваць такую ідэю, выставіўшы сябе паслядоўным дэмакратам.

### Джэрэмі Корбін



Лідар вядучай брытанскай апазіцыйнай партыі лейбарыстаў наведаў Белфаст, каб публічна засведчыць свае сімпатыі наконт праекту адзінай Ірландыі.

Нагадаем, што сто гадоў таму Лондан падтрымаў рух мясцовых пратэстантаў, што дамагліся адміністратыўнай самастойнасці ад Ірландыі, якая хутка стала незалежнай. Прычым, ірландскае адзінства, па словах Корбіна, можа быць рэалізаванае вельмі хутка — а дакладней, пасля таго, як ён будзе абраны прэм'ерам Вялікабрытаніі. Праўда, пры гэтым палітык падкрэсліў, што аб'яднанне магчыма выключна на аснове ўсенароднага кансенсусу ў выглядзе рэферэндуму, які ён таксама паабяцаў арганізаваць у выпадку сваёй перамогі.

Натуральна, міма гэтай заявы не прайшлі радыкальныя пратэстанты. Іх правадыр заявіў, што пасажы Корбіна дэстабілізуюць сітуацыю ў рэгіёне, дзе колькасць прыхільнікаў далучэння краю да Ірландыі не больш за 20 працэнтаў. У кіраўніцтве пратэстантаў таксама лічаць, што візіт Корбіна ў Белфаст быў негалосным падтрымкай ірландскіх экстрэмістаў, паколькі галоўны лейбарыст ігнараваў зборы ахвяраў тэрарыстаў Ірландскай Рэспубліканскай Арміі (IRA).

Затое прапановы Корбіна віталі ў Дубліне. Прычым, мясцовая прэса лічыць, што рэалізаваць ідэю адзінай Ірландыі можна будзе вельмі хутка праз непапулярнасць брытанскага ўраду торы і нежаданне жыхароў Ольстэру мець нармальны памежны рэжым з Ірландыяй. Мяжа паміж Ірландыяй і Ольстэрам можа аднавіцца пасля канчатковага выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС, што адмоўна паўплывае на паўночна-ірландскую гаспадарку.

# Святлана Алексіевіч: «Я — шчаслівы чалавек»



Фота www.news-front.info

« Заканчэнне. Пачатак у №19



Сяргей ШАПРАН

***— У Іосіфа Бродскага ёсць думка пра тое, што паэт у чымсьці — Геракл, і яго вершы — гэта подзвігі. Але немагчыма зразумець, што такое Геракл, толькі па адным, двух ці трох подзвігах, паколькі Геракл — гэта ўсе дванаццаць подзвігаў. І сімвалічна, што Нобелеўскую прэмію вы атрымалі не за адну толькі кнігу «Час сэканд-хэнд», а за ўвесь цыкл. (Дарэчы, рэдкі выпадак, каб пісьменнік на працягу ўсяго жыцця распрацоўваў, па сутнасці, адну тэму. У беларускай літаратуры, напэўна, падобнае можна сказаць толькі пра Васіля Быкава. Адамовіч пісаў, што яго аповесці варта разглядаць не як асобныя творы, а як суму аповесцяў.) Але якая з пяці вашых кніг найбольш дарагая для вас?***

— Сярожа, гэта ўсё ж такі не зусім карэктнае пытанне... *(Святлана Алексіевіч разважае.)* «У вайны не жаночы твар», «Апошнія сведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва»...

***— Яшчэ «Зачараваныя смерцю», хоць гэтая кніга пасля выхаду «Часу сэканд-хэнд» нібы выпала з вашай бібліяграфіі...***

— Яна і ёсць «Час сэканд-хэнд». Проста гэта была першая спроба намацаць канцоўку — я ж амаль сорак гадоў пішу, па сутнасці, адну і тую ж кнігу, то-бок усе мае рэчы трэба разглядаць як энцыклапедыю...

***— Як дванаццаць подзвігаў Геракла, гэта калі карыстацца вызначэннем Бродскага.***

— Не магу сказаць, што гэта нейкі подзвіг — гэта проста быў мой шлях. І я сама расла разам са сваімі кнігамі. Мне былі цікавыя пэўныя пытанні, і я шукала адказы на іх. У кожнай кнізе — частка гэтых адказаў.

***— І ўсё ж маё пытанне вы лічыце некарэктным?***

— Вядома. Вось, напрыклад, «У вайны не жаночы твар» — эмацыйна вельмі моцная кніга. Я тады ўпершыню адчула свой жанр... «Апошнія сведкі» — гэта погляд на вайну зусім дзіцячымі вачыма, ніяк не закранутымі культурай, гэта значыць людзей, якія быццам яшчэ не з гэтага свету... «Цынкавыя хлопчыкі» — тут новая псіхалогія вайны... «Чарнобыльская малітва» — гэтая кніга больш за астатнія запатрабавала інтэлектуальных высілкаў, паколькі гэта быў зусім новы тэкст. Калі «Цынкавыя хлопчыкі» — твор пра вайну, і я ведала, у якой прасторы дзейнічаю, бо чалавецтва ўсё жыццё ваюе (існуе нават цэлая культура вайны!), то Чарнобыль быў дагэтуль не вядомай, цалкам новай тэмай. І, вядома, праца над гэтай кнігай найбольш запомнілася мне... «Час сэканд-хэнд»... Свет развалі́ўся на кавалачкі, настаў час хаосу і поўнай нявызначанасці, і сабраць гэта ўсё разам у харавыя тэксты было вельмі складана. Калі чырвоны інтэр'ер, ад якога мы адмовіліся, быў знаёмы і зразумелы, то абсалютна не вядома было, што адкрываецца нам за ім. Гэтая чароўнасць пустэчы... Такім чынам, кожная кніга патрабавала намаганняў, і ў кожным выпадку мне было цікава працаваць.

***— Але, відаць, не памылюся, калі скажу, што «Час сэканд-хэнд» пісаўся складаней за іншыя кнігі?***

— Так, гэта самая складаная мая кніга. І хоць я спачатку зрабіла спробу падысці да гэтай тэмы (маю на ўвазе кнігу «Зачараваныя смерцю»), але потым адышла, не зразумеўшы, як жа гэта здзейсніць.

***— Мабыць, таму, што знаходзіліся яшчэ ў гэтым часе.***

— Мы ўсе былі рамантычна настроены і думалі, што заўтра прыйдзе свабода. З чаго мы гэта ўзялі, чаму так вырашылі — незразумела... Мы бегалі па плошчах і крычалі: «Свабода! Свабода!» І паняцця не мелі, што гэта такое. Таму і напісаць пра гэта было немагчыма. Але вось прайшло дзесяць гадоў — і з'явілася разуменне... Час павінен укласціся ў нейкія формы, і толькі тады гэта можна схапіць.

***— Вы нязменна кажаце, што цыкл «Маленькі чалавек і Чырвоная ўтопія» скончаны. Між тым, адна з завяршальных фраз вашай нобелеўскай лекцыі: «Цяпер я не ўпэўнена, што дапісала гісторыю “чырвонага” чалавека». Ці няма тут супярэчнасці? Ці не азначае гэта, што думкі пра цыкл не пакідаюць вас?***

— Як вам сказаць... Я ж адказала на пытанні, што такое Чырвоная ўтопія, як яна праходзіла нават не семдзесят — амаль сто гадоў, і як потым пачаўся гэты прамежкавы час. Іншых адказаў у мяне няма. А гэтыя падрабязнасці, дэталі не маюць ужо такога значэння. Я не стану гэтым займацца.

***— Але вы не выключаеце...***

— Выключаю. Да гэтай тэмы я ўжо не вярнуся.

***— Што б ні адбылося ў гэтым нашым свеце?***

— Дык усё ўжо, што магло, адбылося.

***— Але «чырвоны» чалавек жывы!***

— І ўсё тое самае. Які сэнс? Гэтаксама мне казалі, што трэба працягваць кнігу «У вайны не жаночы твар»: маўляў, гэтыя жанчыны жывыя, і колькі яны будуць жыць, столькі і пісаць трэба... Вядома, кожная жанчына знаходзіла нейкія новыя дэталі, але ў такім выпадку маю кнігу можна было пісаць бясконца. Так і гісторыю Чырвонай утопіі можна працягваць бясконца. Але няма сэнсу. На тыя галоўныя пытанні, якія хацела зразумець, я для сябе адказала.

**У Босніі я пазнаёмілася з чалавекам, які загадвае там Французскім домам (па аналогіі з Інстытутам Гётэ). Ён распавёў, што заняўся гэтым, прачытаўшы «Цынкавых хлопчыкаў» — менавіта пасля гэтай кнігі ён вырашыў, што будзе ездзіць па свеце і выступаць супраць вайны...**

***— Між тым, вы не толькі шмат падарожнічалі па свеце, але і падоўгу жылі ў гэтым іншым, адрозным ад Беларусі свеце. Гэта было звязана і з тым, што вы, як казалі, асцерагаліся стаць закладніцай барыкаднай культуры. «Мастак павінен адпаўзаць ад часу. Ён не можа быць з такім часам разам», — гаварылі вы. Аднак Васіль Быкаў, які пяць гадоў пражыў у добраахвотным выгнанні, заключаў: «Радзіма маладзіла. Чужына старыць. Жыць трэба дома». У сваю чаргу, яшчэ адзін нобелеўскі лаўрэат Генрых Бёль пісаў, што чым далей пісьмовы стол мастака будзе стаяць ад Бацькаўшчыны, тым лепш для мастака...***

— Так, я думаю, гэта сапраўды дае нейкі погляд... Вялікае на самай справе бачыцца на адлегласці. Часам усё-ткі добра адысці ўбок. Увогуле, я думаю, што жыць можна ўсюды. Іншая рэч, што кожны з нас сам выбірае свой шлях. Але я не хацела б жыць нідзе больш, акрамя Беларусі, бо тое, чым займаюся, патрабуе жыцця сярод гэтых слоў, сярод гэтых людзей і гэтых хуткасцей, хоць яны тут у нас і запаволеныя. Хоць жыццё за мяжой дало мне вельмі многае — яно навучыла бачыць сябе і нас у свеце. Для мяне свет стаў адзінай прасторай. Мы ж не можам, адгарадзіўшыся, жыць асобна, гэта проста немагчыма.

***— Аднак вы прызнаваліся, што калі нашы эмігранты пытаюцца, ці не час вярнуцца, вы адказваеце адмоўна.***

— Я сапраўды не бяруся раіць ехаць тым маладым людзям, якія не толькі атрымалі адукацыю за мяжой, але і навучыліся жыць у тым лепш арганізаваным і разумным свеце. Куды ехаць? На гэтыя развалы? Калі тут былі б новая ўлада і новы час, тады я магла б параіць вярнуцца. Але што тычыцца асабіста мяне, дык у мяне ж зусім іншы лёс: я — мастак, і каб пісаць кнігі, я павінна жыць тут.

***— А лёс ўнучкі вас не турбуе — тое, што яна выхоўваецца тут?***

— Ну, не толькі ж яна — мільёны дзяцей тут жывуць. Калі ў яе будзе потым цікавасць і жаданне атрымаць добрую адукацыю за мяжой, то чаму б і не?..

Разумееце, гэта ўсё ілюзія... Я ведаю многіх людзей, якія з'ехалі нібыта дзеля дзяцей. Але іх дзеці вядуць там зусім пасрэднае жыццё. Мне здаецца, што нават тут яны змаглі б жыць больш цікава. Таму я не

знаходжу, што гэта правільнае рашэнне — абавязкова з'ехаць. Вось калі само дзіця хоча чагосьці дамагчыся і вырашыць, што яму сапраўды неабходны добрая адукацыя за мяжой і іншы досвед жыцця, тады, вядома, яму можна дапамагчы. А проста выпхнуць за мяжу, каб ён там бегаў па трох працах і ў перапынку паміж імі прыбіраў дзесьці ў офісе? Я не бачу ў гэтым вялікага сэнсу, мне ніколі не было гэта блізка, і сама я не дапамагала нікому з родных проста «выскачыць» туды. Усё ж далёка не ўсім нашым маладым людзям добра жывецца там — многія застаюцца без працы ці займаюцца чымсьці прымітыўным. У свеце вельмі жорсткая канкурэнцыя і вельмі цяжка знайсці сваё месца ў жыцці. Акрамя гэтага, там занадта шмат чаго не хапае — і сяброў, і пейзажаў, і разумення жыцця.

***— Вы неяк сказалі, што адна з прычын вашага вяртання дадому — якраз унучка, якая пыталася, калі вы вернецеся.***

— Ну так, але гэта ўсё-ткі не галоўнае. Ніколі нельга цалкам прысвячаць сваё жыццё ўнучцы або іншаму роднаму чалавеку. І калі якая-небудзь мама кажа: «Я ўсё жыццё табе аддала!», узнікае законнае пытанне: навошта? а дзе тваё жыццё?.. Кожны павінен жыць сваім уласным жыццём і проста ў меру сіл дапамагаць блізкім людзям.

***— Але што тычыцца яшчэ вашых «замежных» уражанняў — мне вельмі сімпатычная гісторыя, калі вы сустрэліся з гаспадаром кнігарні ў Парыжы...***

— Так-так-так!.. (Усміхаецца.) Яго бацька памёр і пакінуў яму спадчыну, і ён, прачытаўшы «Цынкавых хлопчыкаў», захацеў прадаваць такія вось кнігі, для чаго купіў кнігарню... Гэта, канешне, ашаламляльная гісторыя.

***— Ці здараліся ў вашым жыцці яшчэ падобныя дзіўныя сустрэчы?***

— Ой, было мноства розных гісторый! Напрыклад, у Босніі я пазнаёмілася з чалавекам, які загадвае там Французскім домам (па аналогіі з Інстытутам Гётэ). Ён і распавёў, што заняўся гэтым, прачытаўшы «Цынкавых хлопчыкаў» — менавіта пасля гэтай кнігі ён вырашыў, што будзе ездзіць па свеце і выступаць супраць вайны, і першай краінай, куды сабраўся, стала былая Югаславія...

Так, падобных гісторый было шмат, бо кнігі выходзяць па ўсім свеце. І гэта ж не толькі летапіс савецкай утопіі — гэта аповед пра служэнне дабру, які ставіць перад чалавекам пытанні: хто ён і што стане яго жыццём, чаму ён яго прысвеціць?.. Для мяне дорага, калі мне кажуць, што мае кнігі наводзяць на такія думкі.

***— А на колькі моў перакладзены вашы творы?***

— Больш за 75. Гэта 350 выданняў.

***— І па-ранейшаму часам зусім нечаканыя пераклады?***

— Божа мой, дзе толькі кнігі не выходзяць, — у Тайландзе, у Сірыі, дзе хочаш!..

***— І вы ўсё яшчэ шмат вандруеце па свеце?***

— Так, але ўжо не столькі, як адразу пасля Нобелеўскай прэміі — цяпер я нярэдка адмаўляюся.

***— І маглі адмаўляцца адразу пасля прысуджэння прэміі?***

— Так, але па-чалавечы гэта было б нядобра. Я толькі атрымала прэмію, і сказаць «не хачу»?!

***— Як Боб Дылан.***

— Так-так... *(Усміхаецца.)* Я так не магу, я інакш выхавана. Дый я люблю падарожнічаць — свет такі вялікі і цікавы. Іншая справа, што трэба пісаць новую кнігу, а па-другое, па-чалавечы я ж таксама не бясконцая — ёсць нейкі запас сіл...

***— А дзе вам найбольш спадабалася? Вось іншаму нобелеўскаму лаўрэату — Іосіфу Бродскаму належыць такое выказванне: «...Але галоўнае — Венецыя сама па сабе настолькі цудоўная, што там можна жыць, не адчуваючы патрэбы ў іншага роду любові, у любові да жанчыны. Яна настолькі чароўная, што разумееш: ты не ў стане адшукаць у сваім жыцці — і тым больш не ў стане сам стварыць — нічога, што параўналася б з гэтай прыгажосцю. Венецыя недасягальная. Калі існуе пераўвасабленне, я хацеў бы сваё наступнае жыццё пражыць у Венецыі — быць там коткай, чым заўгодна, нават пацуком, але абавязкова ў Венецыі... Венецыя ўся — твор мастацтва, там асабліва выразна разумееш, што створанае рукамі чалавека можа быць нашмат больш цудоўным за самога чалавека». Бродскі, дарэчы, і пахаваны ў Венецыі.***

— Дух яго, ва ўсялякім разе, лунае там...

Ну так, я жыла ў Парыжы. Але вярнуцца туды потым? — наўрад ці... У Фларэнцыі? — таксама... Мне было вельмі блізкае жыццё ў Швецыі. Я жыла ў Гётэборгу — гэта горад на беразе мора, а я вельмі люблю мора! І гэта было так цудоўна: купляеш звычайны трамвайны квіток, садзішся ў трамвай і выходзіш на беразе мора. Трамвай ідзе далей, а ты па гэтым жа квітку сядаеш на карабель і можаш ехаць на востраў, які табе спадабаецца, каб пару гадзін там пагуляць. Гэта было надзвычайна!.. Дый самае справядлівае жыццё, якое я бачыла, — гэта, па-мойму, у Швецыі: там не толькі больш справядліва падзелена агульнае сацыяльнае багацце, але і дзівоснае сяброўскае стаўленне людзей адзін да аднаго. Мне гэта вельмі падабалася.

***— То-бок, карыстаючыся вызначэннем Бродскага, калі хоць коткай, хоць чым заўгодна, то ў Швецыю?***

— Не ўпэўнена... Я хацела б у сябе, у Беларусі. Я ўсё ж вельмі люблю Беларусь. Гэта мая прастора, якую я разумею... Хоць тое, што люблю, яно паступова знікае. Знікаюць старыя людзі, якіх я вельмі любіла, любіла іх апавяданні. Іх ужо практычна няма... Знікае вёска, якую я таксама любіла. І пачынаецца цалкам новы свет, у якім жывуць зусім іншыя людзі... Вось у мяне ёсць загарадны дом у вёсцы, аднак гэта ўжо іншая вёска. Але хоць пейзажы, дзякуй Богу, яшчэ тыя.

**Ніколі нельга цалкам прысвячаць сваё жыццё іншаму чалавеку. І калі якая-небудзь мама кажа: «Я ўсё жыццё табе аддала!», узнікае пытанне: навошта? а дзе тваё жыццё? Кожны павінен жыць уласным жыццём і проста дапамагаць блізкім...**


Фота www.Euromag.ru


Фота www.Belsat.eu

***— А калі бываеце ва Украіне, адчуваеце, што гэта таксама родная для вас краіна?***

— Так, адчуваю. І без слёз не магу слухаць украінскія песні. І калі па тэлевізары паказваюць гэтую вайну, я, вядома, адчуваю ў сабе ўкраінскую кроў.

**Я ўсё ж вельмі люблю Беларусь. Гэта мая прастора, якую я разумею... Хоць тое, што люблю, яно паступова знікае. Знікаюць старыя людзі, якіх я вельмі любіла, любіла іх аповеды. Знікае вёска, якую я таксама любіла...**

***— Некалі адрасаваў гэтае пытанне Рыгору Барадуліну — у кнізе-дзённіку «Час і мы» расійскага крытыка Уладзіміра Огнева ёсць такі запіс: «Доўгі час казалі, што Напалеона атруцілі мыш'яком англічане. Нядаўна выявілі: атручвання не было, памёр смерцю натуральнай — рак страўніка. Прыгадваецца Герцэн: Напалеону сказалі, што ў яго рак унутры. Ён запярэчыў: "У мяне ўнутры Ватэрлоа".***

***Ад чаго мы паміраем? Вядома, Напалеон мае рацыю.***

***Толькі Ватэрлоа ў кожнага сваё».***

***Карыстаючыся вобразнасцю Огнева, у чым заключаецца ваша Ватэрлоа?***

— Я не вельмі люблю такі пафасны стыль... *(Усміхаецца.)* Нават не ведаю, што вам сказаць... У мяне цікавае жыццё было...

***— Але ў чымсьці вы пацярпелі паразу?***

— Напэўна, я пацярпела паразу ў каханні — неяк складана мне было заўсёды з іншым чалавекам... Можа, толькі вось гэтая параза. А ў астатнім мне было цікава жыць.

***— Аляксандр Лукашук неяк распавёў пра кнігу «Пяць галоўных шкадаванняў людзей, якія паміраюць» аўстралійскай медсястры Броні Уэа: аўтар некалькі гадоў даглядала пацыентаў у апошнія тры месяцы іх жыцця, і высветлілася, што гэтыя людзі часта аднолькава выказваліся пра тое, што яны зрабілі б інакш у жыцці. Дык вось галоўныя шкадаванні такія: шкада, што не хапіла смеласці пражыць жыццё ў згодзе з самім сабой, а не так, як чакалі іншыя; шкада, што шмат працавалі; шкада, што страцілі сувязь з сябрамі і што не дазволілі сабе быць больш шчаслівымі. А ці знаёмы вам, Святлана Аляксандраўна, гэтыя шкадаванні?***

— Так, я чытала гэта. Але я не сказала б, што ў мяне ёсць вялікія шкадаванні... Можа, толькі хацелася б проста больш жыць і назіраць, як працякае гэтае быццё... Толькі гэта, напэўна. А так я даволі шчаслівы чалавек, бо ўсё жыццё займаюся тым, чым хачу...

***— Вы хацелі ўбачыць свет — і ўбачылі яго.***

— Так, убачыла. Я хацела пісаць кнігі — я іх напісала. І яшчэ пішу... Не, у мяне няма такіх шкадаванняў. Але, можа, толькі не хацелася б... не хацелася б, каб жыццё так хутка скончылася.

***— Яшчэ падчас нашага знаёмства вы, падпісваючы мне сваю кнігу, пажадалі быць шчаслівым «у гэтым такім незразумелым свеце». Але цяпер, праз столькі гадоў, свет для вас...***

— Не-не, свет стаў яшчэ больш незразумелы. І, па-мойму, гэта заканамерна... Думаю, чалавек так ніколі нічога і не зразумее... Можа, ён і зразумее калі-небудзь, што такое чорная дзірка, але за адной чорнай дзіркай адкрыецца іншая. І так будзе адбывацца бясконца...

***— То-бок сэнс памнажаецца да бясконцасці... Святлана Аляксандраўна, шчыра ўдзячны вам і за гэтую гутарку, і за ваша шматгадовае сяброўскае стаўленне, якое сапраўды значыць для мяне надзвычай многа.***

# Беларуская дыяспара на «Прадмове»

**На фестывалі інтэлектуальнай кнігі «Прадмова» вядомы гісторык і даследчык эміграцыі, сябра Управы Згуртавання «Бацькаўшчына» Наталля Гардзіенка прэзентавала новыя гістарычныя кнігі-цікавосткі серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны».**

Першая кніга — «Масей Сяднёў: Pro et contra» — прысвечаная Масею Сяднёву, пісьменніку і крытыку, які ўзначальваў «Радыё Свабода» цягам 15 гадоў. Праз ліставанне з калегамі і паплечнікамі раскрываецца супярэчлі-




вая і неадназначная асоба выбітнага дзеяча эміграцыі, чые літаратурна-крытычныя тэксты не згубілі сваёй актуальнасці, і нават сёння здольныя выклікаць найвострую палеміку.

Выданне ўтрымлівае падрабязныя падрадковыя каментары і іменны паказнік.

Другая кніга — «Як укладалі «Спадчыну» — прысвечаная гісторыі выдання знакамітага «мюнхенскага» дыхтоўнага 500-старонкавага зборніка Ку-




палавых вершаў, які ў 1955 годзе істотна паспрыяў рэпрэзентацыі беларускай культуры на Захадзе і, праз наяўнасць у зборніку забароненых у БССР тэкстаў, скіраваў тэндэнцыі афіцыйнага купалазнаўства да іх «рэабілітацыі».

У аснову кнігі легла ліставанне аўтараў ідэі выдання «Спадчыны» — заснавальніка БІНіМ Вітаўта Тумаша і найбуйнейшага купалазнаўцы на эміграцыі, рэдактара «Бацькаўшчыны» Станіслава Станкевіча. Гэты эпісталярый — жывое і захапляльнае сведчанне беларускага інтэлектуальнага жыцця тагачаснай эміграцыі.

**Паводле Інфармацыйнага цэнтру МГА «ЗБС «Бацькаўшчына»**

# Беларускі фолк прагучаў на дваццаць дзве краіны

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Спалучыць старажытныя беларускія песні з барабанамі, бас-гітарай, віяланчэллю, скрыпкай і дудой — немагчыма? Маладая фолк-спявачка Патрыцыя Свіціна разбівае гэты стэрэатып.**



Дзяўчына са сваім этна-праектам сёлета прадставіла Беларусь на «Euroradio Folk Festival», што праходзіў 26–28 траўня ў Маскве і сабраў этна-музыкаў з сямнаццаці краін.

Фестываль — грандыёзная музычная падзея, своеасаблівае «фолк-Еўрабачанне» (хіба што без галасавання), што праводзіцца Еўрапейскім вяшчальным саюзам штогод у розных краінах Еўропы з 1980 года. Удзельнікаў на яго прадстаўляюць нацыянальныя радыёкампаніі. Галоўная мэта фэсту — паказаць разнастайнасць і багацце сусветных музычных традыцый.




17-гадовая Патрыцыя Свіціна — самая маладая ўдзельніца сёлетняга фестывалю, які праходзіў ужо ў 39-ты раз. Свой этна-праект спявачка стварыла яшчэ ў 15 гадоў — натхненнем паслужылі этнаграфічныя экспедыцыі па Беларусі, у якіх дзяўчына ўдзельнічала.

«Этна-сімфа» — так ужо акрэслілі музычны стыль, у якім працуе гурт. У Беларусі з падобным гучаннем не выступаў яшчэ ніводны калектыў.

— Я заўсёды марыла, каб у маім этна-праекце было нешта такое, чаго няма ў іншых, — прызналася спявачка.

І такога сапраўды няма — гэта змаглі ацаніць не толькі беларускія слухачы, але і прафесійныя фолк-выканаўцы з розных краін. Звязаць разам народную песенную творчасць, магутны вакал у, фактычна, аўтэнтычным гучанні і рознапланавыя інструменты — майстэрства, блізкае да чараўніцтва. Таму на «Euroradio Folk Festival» выступ «Этна-праекта Патрыцыі Свіцінай» стаў адным з самых яскравых. Калектыў прадставіў розныя беларускія абрадавыя і пазаабрадавыя песні. 26 траўня іх змаглі чуць у жывой трансляцыі радыёстанцыі «Арфей» 22 краіны свету.

Спалучэнне традыцыі і сучаснасці — не толькі ў кампазіцыях гурта, але і ў знешнім выглядзе: у сваіх стылізаваных строях музыкі выкарыстալі рэканструяваныя жаночыя галаўныя ўборы няглюбскага строю: кубкі са стужкамі. І гэта не проста так: праграму закрывала песня з абраду ваджэння і пахавання стралы, што ладзіцца ў тым рэгіёне Беларусі.

— Мне было вельмі цікава паглядзець на гурты з розных краін, і, канешне, хацелася паказаць нашу культуру, — распавяла пасля выступлення спявачка. — Беларуская спеўная традыцыя вельмі цікавая сваімі дыялектамі, якія мы ў сваім праекце захоўваем. А яшчэ наша традыцыя адрозніваецца сваім настроем: кажуць, што беларускія песні сумныя, але яны не сумныя, а філасофскія.

Свой творчы шлях Патрыцыя Свіціна пачынала з ансамбля «Валошкі», пасля займалася вакалам у Ірэны Катвіцкай і спявала ў яе дзіцячым фальклорным ансамблі «Рада». «Дзіця «Камяніцы», Патрыцыя выступае на аднайменным фолк-фестывалі з самага яго заснавання. Дзяўчына — шматразовая лаўрэатка і ўладальніца Гран-пры конкурсаў «Маладыя таленты Беларусі», «Салют талентаў» «Кубак Еўропы», Дыпламантка Сусветнай музычнай прэміі. У 2015 годзе юная спявачка ўдзельнічала ў шоу «Я магу» з песняй абраду ваджэння і пахавання стралы з Гомельшчыны.







Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №207

Падпісана да друку 01.06.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.